№ 39 (924) 21 кастрычніка 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

## Магія лічбаў



Выбары прайшлі, пытанні засталіся. **Старонкі 6, 7.**

# Пагоня побач

Кадэты Ястрамбельскай вайсковай вучэльні сфатаграфаваліся з Пагоняй на грудзях. Іх за гэта хацелі выгнаць, але грамадства ўстала на абарону. **Старонкі 3, 4**.



## Лукашэнка: Пенсійны ўзрост прыйдзецца павышаць

20 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка правёў нараду з урадам.

Чакалі кадравых перамен: сітуацыя ў эканоміцы правальная. Словы «беларускі эканамічны цуд» гучаць як жарт цяпер, калі эканоміка абвалілася на 3,7% за год, а па ўзроўні заробкаў краіна ў Еўропе паўзе ці то на другім, ці то на трэцім месцы з канца.

Таксама ад нарады чакалі яснасці, ці будуць у краіне рэформы і якія. «Я гатовы да любых рэформаў, але вы не захочаце», — сказаў Лукашэнка перад галасаваннем 11 кастрычніка.

«Урад будучага пяцігоддзя, збольшага, і ўсе органы ўлады сфарміраваныя да прэзідэнцкіх выбараў. Я пра гэта казаў, другія прэзідэнцкія выбары так праходзяць. Людзі павінны ведаць, хто будзе працаваць пасля выбараў, калі гэтага прэзідэнта абяруць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Такім чынам, Андрэй Кабякоў, якога лічаць разумным менеджарам, але слабым прэм'ерам, застанецца.

«Наперадзе нас чакаюць вельмі сур'ёзныя выпрабаванні, — папярэдзіў яго і ўсіх кіраўнік. — Неабходна забяспечыць не толькі далейшае развіццё, але і захаванне гэтай суверэннай незалежнай краіны, якую мы з вамі стварылі». У прыватнасці, сказаў Лукашэнка, «я пра гэта казаў яшчэ у перадвыбарчы перыяд, што пенсійны ўзрост прыйдзецца павышаць. Нам трэба яго павышаць, але людзі гэтага не хочуць. Таму ў нас у краіне невялікія пенсіі. Мы сёння маем той пенсійны фонд, які маем», — сказаў Лукашэнка.

Доля пенсіянераў у Беларусі расце, а пенсійны ўзрост у нас меншы, чым у Польшчы ці Германіі. Таму лагічна было б яго павышаць. Дык для таго трэба і забяспечваць людзям такое жыццё, каб яны здаровымі жылі даўжэй.

Пра дэталі новага курсу дзяржаўныя СМІ, як заўжды, не расказалі. Але гаворка ідзе, найхутчэй што, пра структурныя рэформы і спробу палепшыць гандаль краіны з Захадам. Прынамсі, Аляксандр Лукашэнка рэзюмаваў: «Санкцыі знятыя. Дзейнічайце».

**Мікола Бугай**

## Інстытут датэрміновага галасавання павінен быць ліквідаваны

Піша Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 10.**

## Як дзяўчына з БРСМ расказвала мне пра пузатага Буду

Віктар Шукеловіч. Апавяданне. **Старонка 15.**

## Скарбы нетурыстычнай Рыгі

Піша Алег Дзярновіч. **Старонка 14.**

# Лябедзька выявіў у «Салодкім фальварку» «жучок» у сурвэтніцы

Гэта адбылося ў пятніцу 16 кастрычніка.

«Дамовіліся аб сустрэчы з Уладзімірам Някляевым і Мікалаем Статкевічам. Па тэлефоне. «На старым месцы», без абазначэння каардынатаў і назвы. Прыйшоў за 10 хвілін да сустрэчы. Толькі сеў — зазірнуў бармен, і тут жа з'явілася афіцыянтка, узяла са стала сурвэтніцу і замяніла на іншую. Звярнуў увагу, што яны адрозніваюцца. Пачаў круціць у руках, і раптам ніжняя частка пайшла па нябачнай разьбе. А там... падслухоўваючая прылада. Добры дзень, таварыш генерал. Так, прэзідэнцкая кампанія ўсё яшчэ працягваецца! Неяк дзіўна вядуць сябе апрычнікі чалавека, за якога нібыта прагаласавала больш за 80% выбаршчыкаў», — іранізуе Анатоль Лябедзька ў сябе ў фэйсбуку.

Да апісання Лябедзька прыклаў фота «прылады».

«Бармен, калі ўбачыў мяне, павёў сябе не так, як звычайна, — апавёў Анатоль Лябедзька «Нашай Ніве». — Прычым цяпер я ўзгадваю, што і раней падчас нашых сустрэч персанал так жа сябе паводзіў».

Пасля таго, як у сурвэтніцы знайшоўся «сюрпрыз», Лябедзька спачатку думаў, што, можа, варта было б забраць яе з сабой, але вырашыў пакінуць у кавярні.

«Неўзабаве прыйшоў Уладзімір Някляеў, я яму паказаў моўчкі тую прыладу, і мы вырашылі пайсці на вуліцу, — працягвае лідар АГП. — Я хацеў падысці да бармена і спытаць, колькі ж яму за гэта прыплачваюць, але ж таго не аказалася за стойкай».

Прычым, па словах Лябедзькі, персанал яму знаёмы — гэта звычайныя супрацоўнікі кавярні, а не нейкія спецагенты. На яго думку, улада проста зноў выкарыстоўвае людзей у сваіх мэтах — так жа, як настаўнікаў падчас выбараў.

«Я не звяртаўся ані да адміністратара, ані да міліцыі. Падумаў, што лепш прыцягнуць да выпадку ўвагу грамадскасці, — кажа Лябедзька. — Бо гэта не першы выпадак, і я ведаю, што юрыдычна мы нічога нікому не дакажам. А звяртацца да той сістэмы, якая гэта і робіць... Няма сэнсу».



«Сустрэча трох лідараў руху за грамадзянскія правы павінна была адбыцца ў кавярні «Салодкі фальварак» на плошчы Перамогі», — расказаў «Нашай Ніве» Мікалай Статкевіч. Гэтая кавярня належыць кампаніі «Трайпл» Юрыя Чыжа.

У дадзенай кавярні ў Статкевіча была прызначана і яшчэ адна сустрэча. Падчас яе Статкевічу сурвэтніцу больш не мянялі, проста за суседні столік падсеў чалавек з куфлем піва, які, аднак, да піва не дакрануўся.

У кавярні «Салодкі фальварак» «Нашай Ніве» штосьці каментаваць адмовіліся.

**Улад Швядовіч, Зміцер Панкавец**

## Правакатар, які выйшаў у дзень выбараў з расійскім сцягам, затрыманы

Малады чалавек, які правакаваў удзельнікаў несанкцыянаванай акцыі 11 кастрычніка ў цэнтры Мінска, у тым ліку расійскім сцягам і агрэсіўным паводзінамі, затрыманы міліцыяй. Пра гэта паведаміў журналістам міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч. Міністр растлумачыў, што гэты хлопец знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

Вечарам 11 кастрычніка (нядзеля), у дзень выбараў, прайшла стыхійная маніфестацыя ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасці, у якой узяло ўдзел каля 250—300 чалавек. Людзі, што пратэставалі супраць вынікаў выбараў, дайшлі праспектам Незалежнасці да Чырвонага касцёла, але разгубіліся, што рабіць далей.



Дзмітрый Маісеенка (злева) у дзень выбараў.

Сяргей Гудзілін

Тут з'явіўся нейкі чалавек, загорнуты ў расійскі сцяг. Як паведамлялі журналісты, ён паспрабаваў чапляцца да ўдзельнікаў шэсця. Па словах журналістаў, людзі ў цывільным параілі яму сысці, і ён пад крыкі ўдзельнікаў акцыі хуценька пайшоў да гатэля «Мінск».

Супала так ці не, але ўвага дэманстрантаў пераключылася, што дапамагло некалькім іншым «падазроным асобам» таксама знікнуць.

Гэтым чалавекам з расійскім сцягам аказаўся актывіст кампаніі «Антымайдан» Дзмітрый Маісеенка. У прыватнай перапісцы ў сацсетцы «Укантакце» хлопец напісаў, што затрымалі яго «правільна і граматна».

**АГ**

# Выйшаў нумар ARCHE, прысвечаны князям Радзівілам

У апошнія гады павялічылася зацікаўленасць гісторыяй роду Радзівілаў у Беларусі. У першую чаргу гэта выклікана папулярнасцю былых цэнтраў радзівілаўскіх уладанняў (Нясвіж, Мір, Любча і інш.) як аб'ектаў гістарычнай спадчыны. Дзякуючы гэтаму ў тым ліку расце зацікаўленасць фундатарскай і культурнай дзейнасцю Радзівілаў.

Гісторыя роду Радзівілаў звязана з гісторыяй шматлікіх населеных пунктаў сучаснай Беларусі (Нясвіж, Слуцк, Мір, Капыль, Карэлічы, Койданава, Беліца, Раманава, Жодзіна, Копысь, Клецк, Глуск, Чарнаўчыцы і інш.). Гэты нумар закліка111 садзейнічаць пашырэнню ведаў беларускага чытача пра slavutы магнацкі род. Дзеля гэтага ў нумары сабраныя артыкулы вядомых гісторыкаў з Беларусі, Літвы і Польшчы, якія займаюцца даследаваннем роду Радзівілаў.

Выданне можна замовіць, даслаўшы электронны ліст на адрас **dastauka@arche.by**

**Цана выдання — 70.000 руб. без уліку дастаўкі, 90.000 руб. з улікам дастаўкі.**






### Сцісла

**Удзельнікаў акцыяў 10 і 11 кастрычніка выклікаюць у міліцыю**

«Ведаю, што выклікаюць Алеся Макаева, Мікалая Коласа, Алеся Рыбачэнку, Марыю Касьян і Вольгу Мікалайчык. Шукаюць, каб уручыць позву, Максіма Вінярскага. Усіх — за акцыю на плошчы. Пойдзем у міліцыю разам з адвакатам», — кажа актывіст, таксіст Леанід Кулакоў. Таксама за ўдзел у акцыі на Кастрычніцкай плошчы быў складзены пратакол на вядомага літаратара Адама Глобуса.

**«Я магу прыехаць у Маскву...»**

На саміце СНД у Казахстане Лукашэнка падзякаваў Пуціну і выказаў меркаванне, што ў цяперашні час неабходна вызначыць актуальныя пытанні супрацоўніцтва. «Я магу прыехаць у Маскву, і мы з вамі б селі, дзесьці паўдня, і канчаткова прынялі б рашэнне па ўсіх пытаннях, па якіх наспелі рашэнні. Бо наўрад ці мы ў гэтай завірусе сёння пагаварыць зможам глыбока», — сказаў Лукашэнка.

**Назарбаеў: Надыходзіць сапраўдны крызіс**

Прэзідэнт Казахстана прагназуе далейшае пагаршэнне эканамічнага становішча ў рэгіёне. «Хуткае паляпшэнне становішча немагчыма спрагназаваць. Наша насельніцтва павінна ведаць бягучую сітуацыю, якая азначае памяншэнне прыбытку нашых прадпрыемстваў, зніжэнне даходаў і магчымае скарачэнне працоўных месцаў. Надыходзіць сапраўдны крызіс — мацнейшы, чым у 2007—2009 гадах», — папярэдзіў Назарбаеў.

### Рэкамендуем

## Падлетак з Жодзіна напісаў рэп на беларускай мове

Незвычайнае відэа ад Германа Генрыха глядзіце на nn.by.

### Самае чытанае на nn.by за 14—20 кастрычніка

1 Дырэктар Ястрамбельскай кадэцкай вучэльні прабачыўся перад Мікітам Гвоздзевым за адлічэнне і просіць вярнуцца

2 Міжнародная камісія абвясціла прычыну крушэння Боінга

3 Назіральнік у Баранавічах паказаў перапісаны пратакол, у Караткевіч забралі больш за палову галасоў

4 «Я сказаў не ўсміхацца ўвогуле!» — трэнера зборнай Беларусі па футболе міліцыя па-хамску абшукала на матчы

5 Кадэты Брэсцкага абласнога вучылішча зрабілі патрыятычнае фота ў майках з «Пагоняй»

6 Юрый Хашчавацкі: У Беларусі з'явіўся моцны апазіцыйны лідар

7 Гігіна, Кізіму і Шпакоўскага абвінавацілі ў нянавісці да «рускага свету»

8 #ПагоняПобач: якія ФОТЫ посцяць людзі ў сацсетках

9 У мінскім метро плануюць пабудаваць кальцавую лінію

10 Шуневіч: Правакатар, які выйшаў у дзень выбараў з расійскім сцягам, затрыманы

# Дырэктар Ястрамбельскай вучэльні прабачыўся перад кадэтамі за адлічэнне

У якасці пакарання кадэтаў маюць проста **пазбавіць звальнення** за парушэнне прадпісанай формы адзення.

На мінулым тыдні чацвёра навучэнцаў Брэсцкай абласной кадэцкай вучэльні ў Ястрамбелі (Баранавіцкі раён) выклалі ў інтэрнэт свае фота ў майках з «Пагоняй» пад уніформай.

Што такое кадэцкая вучэльня? Гэта напаўзакрытая школа, дзе дзеці жывуць і вучацца амаль па вайсковым статуце з 8 па 11 класы. Карыстацца мабільным там можна толькі пару гадзін у спецыяльна адведзеныя дні, з камп'ютарам — тое самае.

Выпускнікі «кадэткі» маюць права паступаць у вайсковыя ВНУ без здачы цэнтралізаванага тэставання, калі адзнакі ў вучня вышэйшыя за 7 балаў па ўсіх прадметах.

У кадэцкіх вучэльнях таксама вучацца і дзяўчаты. Гэта дае ім перавагу пры паступленні ў Акадэмію МУС. З бацькамі навучэнцы бачацца рэдка, раз на тыдзень. За добрыя паводзіны ці пэўныя поспехі можна атрымаць дазвол з'ездзіць дадому на выхадных.

Гэтым і тлумачыцца тое, што ўся інфармацыя з Ястрамбеля была ўрыўкавая, часам супярэчлівая.

У гэтую школу нельга проста так зайсці і пагутарыць з настаўнікамі. На ўваходзе стаіць КПП, а ў будынках арганізаваныя пасты з навучэнцаў, якія дакладваюць сваім куратарам пра тых, хто ўваходзіць.

Самі ж дзеці вельмі запалоханыя: калі я быў у Ястрамбелі, то кадэты выказваліся ў духу «мы не разумеем, пра што вы, а калі і разумеем, то гаварыць не будзем».

Дырэктар таксама ад журналістаў хаваўся. З дома замест яго выйшла ягоная жонка з сабачкам на руках і папрасіла не турбаваць.

Больш разняволена навучэнцы кантактавалі ў сацыяльных сетках. У тым жа «Кантакце» амаль усе кадэты падпісаныя несапраўднымі імёнамі (героі фота з «Пагоняй» таксама), таму і адказнасць за свае словы там адчуваецца менш.

Аднакласнікі хлопцаў з фота з «Пагоняй» расказалі, што ў той жа дзень, як здымак з'явіўся на сайце «Нашай Нівы», пра гэта стала вядома адміністрацыі.

Дырэктар вучэльні Аляксандр Калько, маўляў, быў проста раз'юшаны — прайшло ўсяго толькі пару дзён ад выбараў, а ягоныя навучэнцы выкладаюць у інтэрнэт фота з «Пагоняй». Магчыма, ён баяўся, што ў нелаяльнасці абвінавацяць яго самога. Вось і паднялі бучу. У школу нават выклікалі міліцыю. Аднак тыя адмовіліся займацца справай, не вартай выедзенага яйка — парушэнне формы адзення.

Пасля хуткага разбору дырэктар дабіўся прызнання, хто выклаў фота ў інтэрнэт — гэта хлопец Мікіта Гвоздзеў, які на фотаздымку другі справа. Увечары ў пятніцу Гвозд — такая ў яго мянушка між кадэтаў, — зайшоў да сваіх аднакласнікаў развітацца. Яму паведамілі пра адлічэнне.

Лёс астатніх таксама быў няпэўны — дырэктар вучэльні наказаў бацькам хлопцаў «рыхтавацца» да адлічэння.

Але інфармацыя пра рэпрэсіі супраць кадэтаў пайшла ў СМІ. У краіне пачала разгортвацца акцыя падтрымкі малых патрыётаў Беларусі з тэгам #Пагоняпобач **(гл. старонку 4)**. Свае фоты разам з нацыянальным беларускім гербам выклалі сотні людзей, у падтрымку хлопцаў выказалася нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч, назваўшы тых «сапраўднымі афіцэрамі» ў будучыні. У Ястрамбель з'ехаліся карэспандэнты.

Пакаранне школьнікаў-кадэтаў за беларускі патрыятызм нагадала грамадству змрочныя гады іншаземных акупацый.

Аднакласнікі Мікіты кажуць, што дырэктар вучэльні забраў назад свае словы пра адлічэнне трох хлопцаў. Кадэты таксама расказваюць, што дырэктар выбачыўся перад Мікітам Гвоздзевым і ягонымі бацькамі за рэзкую рэакцыю і прасіў хлопца вярнуцца ў Ястрамбель. Але пакуль Мікіта не вярнуўся — хлопцы мяркуюць, што ён яшчэ сам узважвае, ці варта.

Завуч школы таксама пацвярджае, што «ўсе хлопцы вучацца», «толькі Мікіту бацькі забралі па заяве на выходныя. Учора патэлефанавала мама і папярэдзіла, што ён на даведцы, бо кепска сябе адчувае».

Як расказалі «Нашай Ніве» аднакласнікі, Гвоздзеў паходзіць са Стаўбцоўскага раёна, з сям'і вайскоўца.

Прайшла інфармацыя, што пакараннем для нонканфармістаў стане пазбаўленне звальнення за парушэнне вызначанай формы адзення.

«Пагоня» — гэта вядомы з канца XIII стагоддзя старажытны герб Беларусі. Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях. У выпадку раптоўнага налёту ворагаў — вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон — усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Метрыкі» і «Статутаў». У 1918-м «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы. У 1991—1995 яна была першым дзяржаўным гербам РэспублікіБеларусь. Сёння яна застаецца папулярным патрыятычным сімвалам, які адсылае да старажытнай гісторыі беларускага народа, і ўнесеная ў дзяржаўны Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

**Арцём Гарбацэвіч, Ястрамбель—Мінск**






**Дырэктар кадэцкай вучэльні Аляксандр Калько.**

# Алексіевіч: Кадэты як зорачкі, што свецяць у цемры

Святлана Алексіевіч пра кадэтаў з «Пагоняй»: З іх вырастуць **сапраўдныя беларускія афіцэры**.

16-гадовыя хлопцы-кадэты, якія надзелі майкі з «Пагоняй», як «зорачкі, свецяць у цемры. З іх вырастуць сапраўдныя беларускія афіцэры, якімі Беларусь можа ганарыцца», — так ацаніла ўчынак навучэнцаў Ястрамбельскай вучэльні, выхаванцы якой пазіравалі ў майках з «Пагоняй», нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Святлана Алексіевіч. Пра гэта апавёў на сваёй старонцы ў фэйсбуку Францішак Вячорка, які разам з пісьменніцай ляцеў у самалёце і скарыстаўся магчымасцю даведацца яе пункт погляду на актуальныя падзеі.



## Яшчэ адзін кадэт з «Пагоняй»з Брэста

Хлопец вучыцца ў Брэсце, ён выклаў у сацсеткі фота, на якім з-пад мундзіра бачная майка з гербам «Пагоня». Здымак падпісаны словамі: «Прывітанне Баранавічам з Брэста». Ён умомант разляцеўся па незалежных СМІ.

Сам Яўген, якому ўсяго 15 гадоў, свой учынак тлумачыць тым, што хацеў падтрымаць чацвярых кадэтаў з вучэльні ў Ястрамбелі.

**«Еўрарадыё»**



# ...і мінскі суворавец



У суполцы «Мая краіна Беларусь» «Укантакце» з'явілася яшчэ адно фота з «Пагоняй». Яго ў знак салідарнасці з кадэтамі зрабіў навучэнец сувораўскай вайсковай вучэльні. «Менскае СВВ з Вамі! #ПагоняПобач. Ананімна, калі ласка!» — напісаў ён.

## Адрэагавала нават Міністэрства адукацыі

«У сувязі са зваротамі па пытаннях дзейнасці Брэсцкага абласнога кадэцкага вучылішча, Міністэрства адукацыі інфармуе: інфармацыя аб адлічэнні выхаванцаў з Брэсцкага абласнога кадэцкага вучылішча, якая распаўсюджваецца асобнымі СМІ і інтэрнэт-выданнямі, не адпавядае рэчаіснасці», — гаворыцца ў паведамленні.

«Пытанне аб адлічэнні навучэнцаў ні адміністрацыяй вучылішча, ні заснавальнікам (упраўленнем адукацыі Брэсцкага аблвыканкама) не разглядалася. Адукацыйны працэс у вучылішчы ажыццяўляецца ў звычайным рэжыме», — адзначыла ведамства ў прэс-рэлізе.

# Пагоня побач

Беларускія карыстальнікі сацыяльных сетак зладзілі флэшмоб салідарнасці з кадэтамі Ястрамбельскай кадэцкай вучэльні. Людзі спецыяльна фатаграфаваліся адзежы з «Пагоняй» і выкладалі здымкі ў сацсеткі пад хэштэгам (спецыяльны цэтлік для пошуку інфармацыі ў інтэрнэце) #пагоняпобач. У спантанным флэшмобе ўзялі ўдзел сотні людзей. Сярод іх былі вядомыя інтэрнэт-карыстальнікі і публічныя асобы.

Фоты ўзятыя з акаўнтаў сацыяльных сетак.



Дачка маладафронтаўцаў Змітра і Насты Дашкевічаў Мара.



Андрусь Горват — мінчук, які з'ехаў у глухую вёску на Палессе.



Піяршчыца Юлія Маліноўская.




Наталля Талочная.




Падарожнік Верасень.



Некаторыя ўдзельнікі флэшмобу фатаграфаваліся з дзецьмі.




Журналіст Вольга Чайкоўская.




Ініцыятыва «Арт-сядзіба» распрацавала тэматычны плакат.




Грамадскія актывісты Глеб Сандрас і Ілля Петравец.



Бубнач гурту Apple Tea Аляксандр Сапега.

# Заўзятарам зборнай у міліцыі пагражалі: «Вы хочаце, каб было як у Луганску, дзе бандэраўцы ядуць дзяцей?»

Зміцер Хведарук — адзін з заўзятараў зборнай Беларусі, якога затрымалі на гульні Беларусь — Македонія ў Барысаве за шалікі з «Пагоняй». Цэлы наступны дзень Зміцера і яшчэ двух хлопцаў прамарынавалі ў судзе. У выніку ўсіх затрыманых прызналі вінаватымі ў дробным хуліганстве і прысудзілі 10 базавых велічынь штрафу (1,8 мільёна рублёў). Зміцер Хведарук падзяліўся ўражаннямі з карэспандэнтам «НН».

«Большасць фанатаў зборнай у перапынку гульні з Македоніяй пайшла ў прыбіральню ці проста ў галерэю, каб выпіць гарбаты ці кавы, бо было дастаткова халодна, нягледзячы на тое, што ўвесь тайм мы скакалі і спявалі. Да мяне падышоў чалавек у цывільным з рацыяй. Ён спытаўся, што ў мяне намалявана на шаліку. Пабачыў на ім «Пагоню», сказаў мне, каб я здаў шалік у камеру захоўвання і ішоў назад на трыбуны глядзець матч.

Пытаюся: чым матываваныя гэтыя патрабаванні? Ён сказаў, што з'яўляецца супрацоўнікам праваахоўных органаў. Рэзка папярэдзіў: калі я не здыму шалік, то будзе горш. Я паказаў у інтэрнэце старонку аб тым, што «Пагоня» з'яўляецца культурна-гістарычнай каштоўнасцю, што гэта герб Віцебскай вобласці, некаторых гарадоў. Для міліцыянта гэтая інфармацыя нічога вартая не была.

Прыйшло яшчэ некалькі супрацоўнікаў, якія запатрабавалі пайсці з імі. Я павярнуўся, пабачыў, што забіраюць яшчэ некалькі чалавек з сектара. Варта адзначыць, што спынілі яшчэ аднаго хлопца, у якога быў бела-чырвоны шалік з арнаментам, але, не пабачыўшы там «Пагоню», адпусцілі.

Пасля гэтага нас пасадзілі ў міліцэйскую машыну, ніякіх абвінавачванняў не прад'яўлялі і прывезлі ў Барысаўскі РУУС.

У міліцыі нам казалі, што мы ганьбім краіну, ствараем негатыўны вобраз, носім фашысцкую сімволіку. Спыталіся, ці хочам мы, каб было як на Украіне. Адзін міліцыянт грaзіўся прывесці сям'ю з Луганска, каб яны расказалі, як там дзяцей ядуць бандэраўцы.

Прыйшоў нейкі злосны падпалкоўнік, кажучы, што ён адказвае ў Барысаве за фанатаў, які пачаў на нас крычаць, што мы кепска сядзім, кепска стаім, што мы выклікаем агрэсію, мы зганьбілі краіну, калі прыйшлі на гэты матч.

У ізалятары было не так кепска, як на Акрэсціна, бо давалі матрац, прасціну, падушку, нават лёгкую коўдру. Але мы амаль суткі адседзелі без пітной вады, бо вада ў камеры была жудаснай. У камеры было два забітыя акенцы, адна з шыбаў была разбітая, таму было надзвычай холадна, не маглі нармальна заснуць.

Жаданне падтрымліваць зборную ніколі не прападае. Варта як станоўчы факт адзначыць, што на сітуацыю з нашым затрыманнем звярнула ўвагу Беларуская федэрацыя футбола, што няма ніякіх правапарушэнняў. Спадзяюся, што гэта нейкім чынам паспрыяе вырашэнню сітуацыі. Калі такое будзе паўтарацца, то не ведаю, ці будзе нехта хадзіць на матчы ў будучыні».

**Запісаў Зміцер Панкавец**



### Грошы на штраф сабралі

Футбольныя фанаты сабралі сродкі для выплаты штрафаў затрыманым 12 кастрычніка на «Барысаў-Арэне». Патрэбная сума (5,4 мільёна рублёў) была сабрана ўжо на наступны дзень пасля судоў, адзначае фанацкі рэсурс belultras.by.

### Матолька звярнуўся ў міністэрствы

Фатограф Антон Матолька ініцыяваў збор подпісаў пад петыцыяй, якая заклікае чыноўнікаў спыніць пераслед за бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» і спрыяць іх папулярызацыі. Ужо сабрана каля 500 подпісаў.

Аўтары звяртаюцца да Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай правесці тэматычную тлумачальную працу сярод сваіх супрацоўнікаў. Міністэрства гандлю просяць забяспечыць наяўнасць як дзяржаўнай, так і гістарычнай сімволікі ў гандлёвых аб'ектах. А Міністэрства культуры — афіцыйна замацаваць за бел-чырвона-белым сцягам статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Герб «Пагоня» такі статус ужо мае.

### Шуневіч: За «Пагоню» нікога не караюць

«У Беларусі не было затрымання футбольных фанатаў за тое, што яны выкарыстоўвалі шалік з выявай герба «Пагоня», гэтыя людзі былі затрыманыя за правапарушэнне». Пра гэта сказаў журналістам міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч. Міністр кажа, што ў Беларусі не існуе адміністрацыйнай адказнасці за выкарыстанне такога герба. «Не трэба ў гэтай сувязі спекуляваць на такой інфармацыі. Гэта была банальная сітуацыя, калі заўзятары лаяліся нецэнзурна і не рэагавалі на заўвагі». Хведарук збіраецца падаць скаргу на гэтыя словы міністра.




# Шэсце ў Курапаты на Дзяды пройдзе 1 лістапада

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміў намеснік старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Юрась Беленькі.

Па яго словах, афіцыйны дазвол улады яшчэ не далі. «Але яны заўсёды цягнуць да апошняга», — адзначыў Беленькі.

Заяўка на шэсце па Мінску і мітынг у Курапатах паддзеная на нядзелю, 1 лістапада. План такі ж, як і летась: збор прызначаны на 10.30 каля будынка Мінскага гадзіннікавага завода на праспекце Незалежнасці (станцыя метро «Парк Чалюскінцаў»).

Пачатак шэсця аб 11.00. Затым людзі пройдуць па вуліцах сталіцы і накіруюцца ў мемарыял.

**УШ**

## Беларусы расчароўваюцца ў еўразійскай інтэграцыі

Па выніках чацвёртай хвалі даследавання інтэграцыйных пераваг у краінах СНД эксперты кажуць аб далейшым умацаванні «інтэграцыйнага ядра» ЕАЭС: у Казахстане, Расіі і Кыргызстане ўзровень ухвалення ЕАЭС зафіксаваны на ўзроўні 78—86% насельніцтва. А вось насельніцтва Беларусі прыкметна страціла цікавасць да еўразійскай інтэграцыі за апошні год — тут паказчык знізіўся да 56%, што на 8 працэнтных пунктаў ніжэй, чым ў 2014 годзе. Таксама 57% беларусаў выступілі супраць супольнага войска ў межах ЕАЭС.

Даследаванне праводзіцца Цэнтрам інтэграцыйных даследаванняў Еўразійскага банка развіцця (ЦД ЕАБР) з 2012 года ў партнёрстве з Міжнародным даследчым агенцтвам «Еўразійскі манітор». У 2015 годзе ўдзел у апытанні ўзяло больш за 11 тысяч грамадзян у дзевяці краінах рэгіёна СНД: Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстане, Кыргызстане, Малдове, Расіі, Таджыкістане і Украіне.

**tut.by**

## Падаткавікі выявілі 950 мінчукоў, які жывуць не па сродках

У Мінску ў студзені—верасні выяўлена 950 чалавек, якія жывуць не па сродках. Пра гэта паведаміў начальнік інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Мінску Андрэй Сабалеўскі на апаратнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме.

У студзені—верасні супрацоўнікі сталічных інспекцый правялі 1,8 тыс. праверак выканання фізічнымі асобамі заканадаўства. У выніку ў бюджэт паступіла Br11,9 млрд, выяўлена больш за 950 грамадзян, выдаткі якіх не адпавядаюць прыбыткам.

Так, напрыклад, інспекцыя па Ленінскім раёне Мінска прааналізавала інфармацыю ў дачыненні да беспрацоўнага грамадзяніна. Па наяўных звестках, даходаў ён не меў, пры гэтым здзейсніў куплю аўтамабіля (Br200 млн) і кватэры (Br639 млн). Інспекцыя запатрабавала ў яго дэкларацыю аб даходах і маёмасці, па выніках кантрольных мерапрыемстваў выяўлена перавышэнне расходаў над даходамі ў памеры Br858,9 млн. З сумы перавышэння выдаткаў над даходамі разлічаны падаходны падатак у памеры Br103 млн.

Дадзеная сума паступіла ў бюджэт у поўным аб'ёме, інфармаваў кіраўнік інспекцыі.

**БелТА**

## Ва ўсім Уруччы адключылі ацяпленне і гарачую ваду, дзеці ў садках сядзяць у пухавіках

«Сын у садку не здымае пухавіка, — напісаў чытач «Нашай Нівы» Мікалай, што жыве на вуліцы Гінтаўта ва Уруччы. — А жонка ў мяне доктарка. І ёй даводзіцца мыць рукі ў халоднай вадзе перад кожным пацыентам. Гэта чацвёртае адключэнне гарачай вады за лета-восень!» — наракае ён.

Ваду адключалі на 2 тыдні, потым на 3 дні, потым яшчэ на 3 дні, і вось гэта — чацвёртае.

«Выбары прайшлі — можна адключаць ацяпленне?» — абураецца чытач.

Як стала вядома, мінскі раён Уручча цалкам адключаны ад ацяплення і гарачай вады — і жылыя дамы, і садкі, і паліклінікі.

Адключэнне ажыццяўляецца дзеля вялікай будоўлі. Рэч у тым, што на ўчастку цепламагістралі №55 на аб'екце «Транспартная развязка праспект Незалежнасці — вуліца Філімонава» ажыццяўляюць урэзку. Гаворка пра новую транспартную развязку каля Нацыянальнай бібліятэкі, якую фінансуе «Газпром».

**Сяргей Гезгала**

# Назіральнік у Баранавічах зафіксаваў перапісаны пратакол: у Караткевіч забралі больш за палову галасоў

**Адавочцы пераканаными, што на ўчастку №36 у Баранавічах адбылася фальсіфікацыя.**

На пратаколе пасля падліку галасоў былі запісаныя адны лічбы, а ў «тым жа» пратаколе ў тэрытарыяльнай камісіі — зусім іншыя. Карэспандэнт мясцовай газеты ў Баранавічах Макар Маліноўскі прысутнічаў на падліку галасоў на выбарчым участку №36, што ў Палацы дзіцячай творчасці.

Былі агучаныя наступныя вынікі галасавання: Тацціну Караткевіч падтрымалі 230 з 1347 выбарцаў (17,1%), а Аляксандра Лукашэнку — 1014 з 1347 (75,3%). Незалежныя назіральнікі Сяргей Марцінкевіч і Галіна Ярашэвіч сфатаграфавалі пратакол.

Праз дзень пасля выбараў карэспандэнт завітаў да старшыні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Тамары Шукала і папрасіў азнаёміцца з пратаколамі ўчасткаў. Старшыня паказала ўсе 68 пратаколаў. Карэспандэнт зноў ледзь змог стрымаць сваё здзіўленне: на пратаколе ўчастка №36 былі зусім іншыя лічбы.

Яўка «вырасла» на 118 чалавек. Колькасць галасоў за Караткевіч зменшылася на 130, ёй пакінулі менш за 7%. А вось падтрымка Лукашэнкі вырасла на 269 галасоў. Цяпер у яго стала 88%.

TUT.BY звярнуўся да старшыні Баранавіцкага тэрытарыяльнага выбаркама (ТВК) Тамары Шукала па тлумачэнні: «Усё там нармальна з пратаколамі. Камісія проста пералічвала. Яны праверылі пратакол па формуле, якая ёсць у метадычным дапаможніку ЦВК, у іх лічбы не сышліся. У гарадскую камісію падалі праўдзівы варыянт. А першы быў чарнавым. Калі пералічвалі, назіральнікі проста сышлі, вось і ўсё. Гэта ўнутраная справа камісіі».

Паводле Крымінальнага кодэкса Беларусі, заведама няправільны падлік галасоў ці іншае скажэнне вынікаў галасавання можа карацца пазбаўленнем волі да пяці гадоў.

**Макар Маліноўскі**

# «Карусельшчыкам» аказаўся дырэктар школы?

**Назіральнік ад АГП Мікалай Казлоў зафіксаваў надзвычайнае выбарчае парушэнне.**

Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў стаў вядомы пасля парламенцкіх выбараў — 2008. Тады на адным з мінскіх участкаў ён зафіксаваў укід галасоў у скрыню з датэрміновым галасаваннем. Маўчаць Казлоў не стаў, адразу склаў адпаведны пратакол. Зрэшты, нікога так і не пакаралі.

Пазней Казлоў далучыўся да апазіцыі, стаў сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі. На гэтых выбарах, калі ён пабачыў, што на ўчастку №24 выбары ладзяць тыя ж людзі, што і ў 2008, ён пайшоў у назіральнікі. І на гэты раз дапытлівы экс-міліцыянт зафіксаваў парушэнні.

«8 кастрычніка я прадухіліў на ўчастку галасаванне шасці «карусельшчыкаў». Яны ўжо былі гатовыя прагаласаваць, але ў апошні момант нехта падаў знак, каб сышлі. Людзі пачалі казаць, што пераблыталі ўчасткі, што нядаўна тут жывуць.

10 кастрычніка я заўважыў тых самых «карусельшчыкаў» на вуліцы. Пабачыў, што ад гэтай групы аддзяліўся адзін чалавек. Я пачакаў на гэты раз, пакуль ён укіне бюлетэнь. На выхадзе з участка я спыніў гэтага чалавека, паклікаў міліцыянта, што сядзеў на калідоры. Папрасіў таварыша паказаць дакумент, што ён прапісаны на гэтым участку. Ён, натуральна, пачаў крычаць на мяне. Маўляў, якое я маю права гэта рабіць. Вылецелі праўладныя назіральнікі, адна з іх — ідэолаг у гэтай самай школе. Я ж не магу сілай выхапіць гэты пашпарт. Ён выйшаў са школы, я пайшоў за ім следам. Гэты чалавек сустрэў сваіх таварышаў, яны зайшлі ў магазін «Бульбаш». Я іх там здымаў на відэа, прасіў паказаць дакумент», — расказвае Казлоў.




«Спадарыня, што была з гэтымі мужчынамі, абяцала выклікаць міліцыю, казала, што я спрабую яе згвалтаваць. Гэта ўсё запісана на відэа. Яны пайшлі Камуністычнай у бок праспекта Незалежнасці, я пайшоў далей за імі. Пабачыў, што жанчыны давала двум мужчынам грошы. Я ўсё гэта бачыў і здымаў на планшэт. Калі яны зноў пабачылі мяне, то жанчына стала проста ўцякаць. Мужыкі ж спрабавалі адабраць мой планшэт, некалькі разоў ударылі мяне па нагах. Яны немаладыя людзі, я не мог уступаць з імі ў бойку, бо мяне б за гэта прасадзілі».

Гэтае відэа спадар Казлоў выклаў на партыйным сайце ucpb.org. Там былі добра бачныя твары людзей, якія «бралі» ўдзел у галасаванні. Вельмі хутка ўдалося высветліць, што адным з гэтых людзей быў дырэктар СШ №21 Мінска Міхаіл Савіцкі, а разам з ім яшчэ дзве настаўніцы з гэтай самай школы. Неяк каментаваць сваю прысутнасць на ўчастку Савіцкі адмовіўся.

Цяпер Казлоў звярнуўся ў міліцыю, ён патрабуе завядзення крымінальнай справы па ўказаных фактах.

«Карусельшчыкі» — людзі, што ходзяць з участка на ўчастак і бяруць удзел у галасаванні, каб завысіць яўку падчас датэрміновага галасавання. Як лічаць назіральнікі, менавіта бюлетэні з датэрміновага галасавання найбольш уразлівыя для фальсіфікацый, бо нікім не ахоўваюцца.

**Зміцер Панкавец**

# Караткевіч і Дзмітрыеў у Брусэлі і Вашынгтоне

19 кастрычніка экс-кандыдат у прэзідэнты Тацціна Караткевіч наведала Брусэль. У прыватнасці, яна ўзяла ўдзел у дыскусіі, арганізаванай Еўрапейскім фондам у падтрымку дэмакратыі.

Пасля візіту ў сэрца Еўрасаюза лідары кампаніі «Гавары праўду» скіруюцца за акіян.

У прыватнасці, на сайце Вільсанаўскага цэнтра з'явілася абвестка пра іх сустрэчу з амерыканскімі экспертамі. Яна пройдзе 22 кастрычніка ад 10.30. У спатканні возьме ўдзел таксама былы пасол ЗША ў Беларусі Кенэт Яловіц.

На сайце цэнтра Тацціну Караткевіч рэпрэзентуюць як «аднаго толькі кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі, які ўдзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах 2015 года ў Беларусі. Яна таксама першая зарэгістраваная кандыдатка-жанчына ў гісторыі краіны. Хоць АБСЕ ацаніла выбары вельмі крытычна, Караткевіч выкарыстала свой удзел у кампаніі, каб прыцягнуць увагу грамадзян да сацыяльна-эканамічных праблем, якія хвалююць звычайных выбарцаў па-за звыклым электаратам апазіцыі».

У часе кампаніі Караткевіч абяцала, што ў выпадку абрання прэзідэнтам яе першая паездка была б у Расію.

**Сяргей Гезгала**

# Гігіна, Кізіму і Шпакоўскага абвінавацілі ў нянавісці да «рускага свету»

**Вядомы расійскі палітолаг і гісторык Алег Няменскі ў сваім блогу рэзка раскрытыкаваў сваіх беларускіх калег за нацыяналізм.**

8 кастрычніка пасольства Беларусі ў Расіі зладзіла экспертны відэамост Масква — Мінск на тэму «Перспектывы беларуска-расійскіх адносін у кантэксце прэзідэнцкіх выбараў».

З беларускага боку ў мерапрыемстве бралі ўдзел галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін, палітолагі Юрый Шаўцоў, Сяргей Кізіма і Аляксандр Шпакоўскі. Усё гэта праўладныя эксперты.

«З беларускага боку ішоў шквал прэтэнзій і «наездаў», — піша Алег Няменскі. — Асабліва разышоўся раней нібыта памяркоўна прарускі Гігін, які проста крычаў, перабіваў, абражаў, абураўся. Ніяк не чакаў ад яго такіх паводзінаў».

Няменскі, які лічыцца экспертам у Расіі па Украіне і Беларусі, адзначае, што ўсіх беларускіх экспертаў аб'ядноўвала «нянавісць да «рускага свету».

«Відавочна, што з таго моманту, як Лукашэнка абвясціў яму [рускаму свету — **«НН»**] вайну, эксперты сталі ў шэрагі. Асабліва пацешыла ультрарусафобская прамова Кізімы, які вельмі баіцца «русіфікацыі Беларусі» і нават паставіў умову: «калі вы хочаце інтэгравацца з Беларуссю, то павінны адмовіцца ад рускага патрыятызму». Такі вось шантаж: альбо вы сябе забіваеце, альбо мы ад вас адварочваемся. «Што для вас важнейшае: інтэграцыя або ідэалогія?» Самае цікавае, што лукашэнкаўскія эксперты сапраўды думаюць, што могуць ставіць Расеі такія ўмовы», — працягвае Алег Няменскі.


Вадзіма Гігіна ў Расіі лічаць «памяркоўна прарускім».

«Факт у тым, што беларусы настроены несупастаўна больш папраcейску і па-прарускy, чым цяперашняя палітычная і экспертная эліта Беларусі. І калі яна вырашыла аб'явіць вайну рускаму свету, то беларусы будуць на другім баку. Ну, акрамя недзе 20 працэнтаў», — робіць выснову расійскі эксперт.

Ён лічыць, што беларуская эліта не гатовая нават да такой «квазіінтэграцыі» з Расіяй, якая прапаноўваецца цяпер.

**ЗП**

# Магія лічбаў: выбары прайшлі, пытанні засталіся

16 кастрычніка ЦВК афіцыйна зацвердзіў вынікі выбараў. Як звычайна, пераможцам абвешчаны дзейны кіраўнік краіны. Аднак паціху ўсплываюць звесткі, якім чынам **ствралася гэтая перавага**.


Сяргей Гудзілін

### Пільны латвійскі блогер

Дзякуючы латвійскаму блогеру *Ritvars*, які быў назіральнікам на беларускіх прэзідэнцкіх выбарах, становіцца зразумелым дакладны механізм «падліку» галасоў.

*Ritvars* прысутнічаў падчас абвяшчэння вынікаў з усіх участкаў у тэрытарыяльнай камісіі Цэнтральнага раёна Мінска і запісваў дадзеныя з усіх пратаколаў. Блогер, аналізуючы вынікі галасавання на падставе законаў электаральнай геаграфіі, прыходзіць да высновы, што лічбы былі высмактаныя з пальца. Галоўны вораг падлікаў падначаленых Лідзіі Ярмошынай — тэорыя імавернасці.

У Цэнтральным раёне Мінска 52 участкі, тры з якіх знаходзяцца ў бальніцах. Медыцынскія ўчасткі (як і вайсковыя) нібыта жывуць у асобным свеце, Аляксандр Лукашэнка набірае на іх 91—96% галасоў, а лічба падтрымкі Таццяны Караткевіч апускаецца да 0,5%.

На абсалютнай большасці астатніх участкаў Караткевіч нібыта мае стабільныя 5% плюс/мінус 0,5%.

Але ёсць тры вартыя ўвагі выключэнні: участкі №16, №21, №24 і №35. Ці то камісія трапілася прынцыповая, ці назіральнікі былі занадта настойлівыя, але на гэтых участках зафіксавана даволі вялікая падтрымка Караткевіч — ад 15,2% да 19,4%.

Возьмем для прыкладу ўчастак №16. Ён, а таксама ўчасткі №14 і №15, знаходзіўся ў памяшканні гімназіі №29. Тут галасавалі жыхары вуліц Максіма Танка, Кальварыйскай, Заслаўскай і адзін дом з праспекта Пераможцаў. Гэта аднародная забудова, якая засялялася прыкладна ў адзін час. Прынцыповых адрозненняў у галасаванні тут быць не можа.

Аднак за Караткевіч на ўчастку №16 прагаласавала ўтрая (!) больш, чым на суседніх. Адпаведна, і колькасць галасоў «супраць усіх» істотна скарацілася.

Кідаюцца ў вочы і іншыя займальныя лічбы. Напрыклад, на кожным трэцім участку раёна датэрмінова прыйшлі галасаваць раўнютка 30,0% выбарцаў. Ні больш, ні менш.

І супадае не толькі гэта. Напрыклад, участкі №33 і №34 знаходзяцца на тэрыторыі адной і той жа гімназіі. У выніку тут і яўка адна на дваіх (зразумела, 30%), і вынік кандыдатаў амаль аднолькавы. У Гайдукевіча 3,2—3,3%, у Улаховіча 2,1—2,2%, а ў Караткевіч роўна 5,1%.

### Блогер мае рацыю

Мы вырашылі праверыць высновы блогера, параўнаўшы яго лічбы з афіцыйнымі. Аднак, на жаль, у ЦВК атрымаць афіцыйныя звесткі па кожным з участкаў Цэнтральнага раёна немагчыма. Вынікі выбараў яны падводзяць на падставе вынікаў абласных камісій і Мінскай гарадской камісіі. А гэтыя камісіі ўжо спынілі сваё існаванне, калі афіцыйныя вынікі былі абвешчаныя.

Але можна параўнаць дадзеныя з інфармацыяй незалежнай кампаніі «Права Выбару». Назіральнікі кампаніі прысутнічалі на 18 участках у Цэнтральным раёне Мінска. І вынікі паводле афіцыйных пратаколаў камісій, якія былі прадастаўленыя назіральнікамі «Права Выбару», супадаюць з высновамі блогера. Розніца нязначная, у некалькі дзясятых працэнта. Напрыклад, на ўчастку №2, па звестках «Права Выбару», датэрмінова прагаласавала 29%. У блогера — 29,3%. Нумар 16 — 34% і 33,7% адпаведна. 20 участак — 30% у «Права Выбару» і 29,8% у блогера.

Што тычыцца колькасці тых, хто прагаласаваў за таго ці іншага кандыдата, то тут ужо лічбы разыходзяцца. Але ж тэндэнцыя захоўваецца. Патлумачым: на ўчастку №16 за Караткевіч прагаласавала, па дадзеных блогера, 15,2%. Па звестках «Права Выбару», кандыдатка ад «Гавары праўду» атрымала тут толькі 11%. Але ж гэта ўсё роўна не звыклыя 4—5%, якія былі «намаляваныя» на абсалютнай большасці астатніх участкаў. На ўчастку №21, напрыклад, у Караткевіч ажно 17% («Права Выбару»). У блогера больш, 19,4%, але ж сутнасць тая ж — лічба значна адрозніваецца ад канчатковай афіцыйнай па краіне.

Вынікі, якія запісаныя Таццяне Караткевіч на ўчастках-выключэннях, збольшага адпавядаюць тым лічбам, якія далі ўчасткі ў Рагачове, Маладзечне, Глыбокім і Баранавічах, дзе назіральнікам дазволілі сачыць за падлікам. Разам Караткевіч і «супраць усіх» усюды там набіралі пад 30%. Аднак няма падставаў цалкам даваць веры гэтым лічбам. Велізарныя лічбы датэрміновай яўкі і адсутнасць кантролю за скрыняй для галасавання ў начныя гадзіны вывелі з-пад увагі назіральнікаў прынамсі траціну галасоў.

### ЦВК паставіў кропку

Але ж ужо нічога не змяніць. Афіцыйныя вынікі ЦВК зацвердзіў 16 кастрычніка. Згодна з імі, агульная колькасць выбаршчыкаў па Рэспубліцы Беларусь склала 7 008 682 чалавек, бюлетэні для галасавання атрымала 6 115 690 выбаршчыкаў. Па звестках ЦВК, у галасаванні ўзяло ўдзел 6 113 013 чалавек, што склала 87,2% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў.

Па афіцыйных дадзеных, за Лукашэнку аддалі галасы 5 102 478 чалавек (83,5%). Караткевіч атрымала 271 426 галасоў (4,4%). За Гайдукевіча прагаласавалі 201 945 чалавек (3,3%), за Улаховіча — 102 131 выбаршчык (1,7%). Не падтрымалі нікога з кандыдатаў 386 225 выбаршчыкаў (6,3%). 48 808 бюлетэняў (0,8%) былі прызнаны несапраўднымі.

**Улад Швядовіч, Ягор Марціновіч**

## Таццяна Караткевіч абскардзіла вынікі выбараў

У ЦВК скаргу **не задаволілі**.



У інтэрв'ю «Свабодзе» Таццяна Караткевіч сказала, што, нягледзячы на фармальнасць скаргі і прадказальнасць рашэння ЦВК, такім крокам яна і яе каманда ўвайшлі ў гісторыю, бо, па яе словах, гэта быў паслядоўны крок, які дапамог адзначыць пазіцыю кандыдаткі. Пры гэтым Караткевіч паведаміла, што далей не будзе засяроджвацца на афіцыйных выніках гэтай кампаніі.

«У нас наперадзе парламенцкая кампанія, стварэнне адзінага спісу і агульнанацыянальны форум «За мірныя перамены», — сказала экс-кандыдатка ў прэзідэнты.

Афіцыйна Таццяна Караткевіч набрала 4,42% галасоў. Сама яна ўпэўненая, што за яе галасавала як мінімум чвэрць выбаршчыкаў.

**УШ**

## БНФ назваў памылкай працу на Караткевіч

Пра гэта старшыня БНФ Аляксей Янукевіч заявіў 17 кастрычніка на пасяджэнні сойму арганізацыі ў Мінску.

Нагадаем, партыя БНФ спачатку прыняла рашэнне аб падтрымцы Караткевіч на выбарах як прадстаўніка кааліцыі «Народны рэферэндум», брала ўдзел у зборы подпісаў за яе вылучэнне. Аднак 29 жніўня БНФ адмовіўся ад далейшай падтрымкі.

«Мне казалі, няўжо ж я не ведаю, што такое «Гавары праўду». Зразумела, што я гэта ведаў, але ў мяне былі надзеі, што Караткевіч стане кандыдатам ад «Народнага рэферэндуму». Гэта дазволіла б захаваць баланс інтарэсаў, наладжаны ў кааліцыі. Аднак стала відавочна, што кіраўніцтва «Гавары праўду», атрымаўшы свайго кандыдата ў прэзідэнты, было не наладжана дамаўляцца», — сказаў Янукевіч.

Пры гэтым ён лічыць, што адмова ад далейшай падтрымкі Караткевіч на выбарах дазволіла «мінімізаваць негатыўныя наступствы» раней прынятага рашэння.

Таксама Янукевіч адзначыў, што вынікі ўдзелу ў выбарчай кампаніі для самой Караткевіч «можна лічыць паспяховымі». «Яна выйшла на агульнанацыянальны ўзровень, увайшла ў гісторыю як першы кандыдат-жанчына. Яна актыўна праводзіла кампанію, вырасла як публічны прамоўца», — сказаў ён.

**УШ**

## Фантомныя выбаршчыкі

Чытачы працягваюць паведамляць у Рэдакцыю **пра парушэнні** падчас сёлетніх выбараў.

Аляксандр Акуліч, назіральнік на ўчастку №64 Савецкага раёна Мінска, даслаў у Рэдакцыю копію сваёй скаргі ў тэрытарыяльную выбарчую камісію. Акуліч сцвярджае, што пры падліку галасоў камісія «дамалявала» больш за 200 выбаршчыкаў. Ён налічыў 615 чалавек, а ў пратакол унеслі... 851. Прычым, па словах назіральніка, пры абвяшчэнні выніку падліку галасоў сакратарка блыталася і некалькі разоў мяняла лічбы.

А чытач з Ліды паведаміў, што ў спісе выбаршчыкаў на яго ўчастку заўважыў сваю жонку, якая з'яўляецца грамадзянкай Расіі і галасаваць у Беларусі не мае права.

«Я папрасіў, каб жонку выкраслілі, — кажа чытач. — Яе прозвішча прыбралі. Я спытаў у камісіі, як так атрымалася. Мне адказалі, нібыта вось такія прыходзяць спісы. Але ўпэўнілі, што такога больш не паўторыцца, гэта проста выпадковасць».

**УШ**

# Міжнародная камісія абвясціла прычыну крушэння «Боінга»

Міжнародная камісія абвясціла прычыну крушэння малайзійскага «Боінга» рэйса MH17. Самалёт быў збіты з комплексу «Бук», вырабленага ў Расіі. Боегалоўка ўзарвалася злева ад кабіны пілотаў.

Калі асноўныя высновы даклада чытаў кіраўнік Рады бяспекі Галандыі Т'ібе Ёстура, у зале стаяла мёртвая цішыня.

Як распавялі сваякам загінулых, усе тыя, хто знаходзіўся на рэйсе MH17, імгненна страцілі прытомнасць.

«Боінг» збілі ракетай з «Бука» серыі 9M38 з баявой часткай 9M314M, а не з якога самалёта. Як тое выявілі? Па асколках ракеты, знойдзеных у целах пілота і пасажыраў.

Як выявілася, ракета тая была новага тыпу, якія выпускаліся ў Расіі ў апошнія гады. Адзінае, што расследаванне не можа сказаць, — гэта месца пуску ракеты.

Застаецца невядомым, ці «Бук» быў перададзены баевікам ДНР, ці ім кіравалі расійскія вайскоўцы «на адпачынку».




**Мікола Бугай**

## У Польшчы за ўладу замагаюцца дзве жанчыны

Прэм'ер-міністарка (на фота справа) Ева Копач («Грамадзянская платформа») і лідарка правай апазіцыі (на фота злева) Беата Шыдла («Права і справядлівасць») сышліся ў тэледэбатах у панядзелак увечары. Дыскусію транслявалі адначасова як дзяржаўныя, так і прыватныя польскія тэлеканалы і найбуйнейшыя парталы.

Дэбаты ў Польшчы праводзяцца па амерыканскім прынцыпе: палітыкі размаўляюць між сабой і адказваюць на пытанні журналістаў з розных выданняў.

Пакуль сацыёлагі даюць «Праву і справядлівасці» 38% галасоў, а «Грамадзянскай платформе» — 28%.

На мяжы выбарчага бар'ера аказаліся як Аб'яднаная левая, так і Польская сялянская партыя, а таксама ліберальная «Сучасная Польшча» і Выбарчы спіс Кукіза. Магчыма, менавіта адна з гэтых меншых партый і стане партнёрам пераможцы па ўрадавай кааліцыі.





Апошнія восем гадоў Польшчай кіруе кааліцыя «Грамадзянскай платформы» і Польскай сялянскай партыі.

Польшча — дэмакратычная краіна, кіруючая і апазіцыйныя сілы маюць роўны доступ у тым ліку да дзяржаўных СМІ.

Упершыню абедзве найбуйнейшыя партыі на выбары вядуць жанчыны.

**Сяргей Гезгала**

## Нафта можа патаннець з 50 да 40 даляраў

**Камерцыйныя запасы нафты Саудаўскай Аравіі дасягнулі 13-гадовага максімуму, а Іран рыхтуецца вярнуцца на рынак.**

Камерцыйныя запасы сырой нафты Саудаўскай Аравіі ў жніўні гэтага года выраслі да 326,6 млн барэляў і дасягнулі максімуму з 2002 года, паведамляе агенцтва *Bloomberg*.

Эр-Рыяд з'яўляецца найбуйнейшым сусветным экспарцёрам нафты, але ў жніўні экспарт упаў з 7,27 да 7 млн барэляў за суткі з прычыны зніжэння попыту.

Запасы сырой нафты краіны знаходзяцца на рэкордных адзнаках з мая 2015 года, у чэрвені быў дасягнуты рэкордны паказчык здабычы ў 10,56 млн барэляў за дзень, упершыню з 1980 года.

Раней паведамлялася, што Саудаўская Аравія пачала нафтавую экспансію на рынкі Еўропы. У прыватнасці, яна прапанавала выгадныя кантракты Польшчы, якая раней закупляла сыравіну найбольш у Расіі.

Адначасова з 18 кастрычніка ўваходзіць у сілу пагадненне аб адмене санкцый супраць Ірана, у выніку чаго прыкладна з першай паловы наступнага года іранская нафта зноў зможа паступаць на рынкі Еўропы.

У выніку можна чакаць новага скарачэння цэнаў на нафту.

**СГ**

## Беларусь разглядае магчымасць набыцця ў Расіі знішчальнікаў Су-30СМ

Пра гэта паведаміў журналістам камандуючы ВПС і войскамі СПА Узброеных сіл генерал-маёр Алег Дзвігалёў.

Паводле яго слоў, гэтыя самалёты павінны прыйсці на замену «састарэлым» МіГ-29. Закупкі новых расійскіх знішчальнікаў плануюцца пасля 2020 года.

Дзвігалёў удзельнічаў у сустрэчы кіраўніцтва беларускага ДТСААФ з прадстаўнікамі кіраўніцтва расійскай карпарацыі «Іркут», якая выпускае Су-30СМ.

На сустрэчы камандуючы расказаў, што на выставе МАКС-2015 у падмаскоўным Жукоўскім беларускі ваенны лётчык, начальнік штаба 61-й знішчальнай авіябазы ў Баранавічах выпрабаваў новы самалёт, правёўшы ў паветры 40 хвілін. «У яго вельмі добрыя водгукі пра гэту машыну», — адзначыў Дзвігалёў.

**БелаПАН**

**Меркаванні**

## Дзмітры Гурневіч: Як пашкадавалі тыя, хто спрадаў мацярынскую хату

Гарадскія скупляюць хутары і хаты ў вёсках. Шчаслівыя і яны, і тыя, што прадалі непатрэбны ўжо нікому дом. Але бяда пачынаецца пазней. Праз пару гадоў многія людзі пачынаюць моцна шкадаваць, што прадалі бацькоўскія дамы. Часам здараюцца драматычныя сцэны.

На нашай вуліцы дзеці прадалі дом бацькоў пасля іх смерці. Пазней людзі бачылі, як дзеці прыязджалі і прапаноўвалі грошы новым гаспадарам, плакалі, хадзілі пад вокнамі і гладзілі рукамі сцены дому. Паспяшаліся з продажам і адны мае сваякі. Прыязджаючы з гарадоў на гадавіны смерці бацькоў, дзеці збіраюцца ў лесе, дзе ядуць абед, а потым спыняюцца на дарозе і глядзяць шклянымі вачыма на дом. У некаторых разуменне памылкі прыходзіць праз шмат гадоў. Адзін дзядзька прадаў бацькоўскі дом яшчэ ў 90-я. У вёсцы ў яго, апрача як магіл бацькоў, нікога няма. Сёння ён ужо сам пенсіянер. Прыязджае, пакідае машыну ў некага ў двары і ідзе з заплечнікам у лес. Будуе там зямлянку і жыве тыдзень ці два. На мінулым тыдні налібацкі егер распавёў гісторыю, як убачыў у лесе на былым хутары дзясятак людзей, якія елі абед. Аказалася, што дзеці прыехалі ў месца, дзе яны выраслі, але ад дому застаўся толькі фундамент, пра што яны сёння моцна шкадуюць. Да нас у госці, бывае, прыязджаюць бацькавы аднакласнікі, у якіх у вёсцы даўно ўсе паўміралі. Адна жанчына, памятаю, пайшла ў свой былы дом і папрасіла гаспадароў трошкі пасядзець у пакоі сваіх бацькоў. Ці вартыя пару тысяч даляраў такога?

## Страхоўка. Гісторыя ад шляхціца Юркойця

Гэтую гісторыю распавядаў мне краязнаўца з Астравеччыны Алесь Юркойць.

На рамонце варнянскага касцёла працавала брыгада будаўнікоў-вышыннікаў. Ставілі новыя крыжы на вежы, рамантавалі дах. І ў гэтай вышыннай брыгадзе вылучаўся адзін будаўнік. Немалады ўжо дзядзька. Ён працаваў без страхоўкі. Калі астатнія, маладзейшыя, надзявалі страхавачныя пасы, ён — не. Сваю адмову ад страхоўкі ён патлумачыў падчас перакуру: «Каб выжыць».

Але аднойчы ён надзеў страхавачны пас. Дзядзька сядзеў на каньку высачэзнага касцёла і ў нейкі момант адчапіў карабін. Інакш было не паварнуцца. Закон подласці не прымусіў чакаць. Вышыннік сарваўся з канька. Даляцеўшы да краю даха, будаўнік паспеў ухапіцца рукамі за касцельны гзымс.

Алесь Юркойць ведае сотні неверагодных гісторый. Кожная з іх — гатовая прыпавесць. Бываючы ў Варнянах, я заўжды пачуваюся здарожаным госцем на хутары шляхціца Завальні.

Вось толькі запісаць гэтыя гісторыі на дыктафон не выпадала. Бо Алесь страхаваўся. Чаго — я зразумець не мог. Бо каму, як не яму, знаўцу кожнага каменя на Астравеччыне, расказваць пра гэты край? І калі я бачыў яго ў сінім кіцелі, асацыяцый са Шціплiцам не ўзнікала. Наадварот, я радаваўся за наш мытны камітэт, дзе служаць такія патрыятычныя мытнікі.

Я і пазнаёміўся з ім, як кажуць, пры выкананні. Пры канцы 90-х любое перасячэнне мяжы было звязанае з абавязковай працэдурай запаўнення мытнай дэкларацыі. І аддаючы свой наспех запоўнены квіток высокаму прыгажуну-афіцэру, я зусім не чакаў пачуць ад яго пытанне: «Вы Зміцер Бартосік?» — «Так». — «Гэта вы на радыё «Свабода» так апантана змагаецеся за беларушчыну?» — «Так». — «А гэта ваша дэкларацыя?» — «Так», — адказаў я мытніку, чырванеючы. Мая дэкларацыя была запоўненая па-расейску.

Пасля таго ўрока, які даў мне мытнік Юркойць, я ўжо не страхуюся расейшчынай пры кантакце з людзьмі ў форме. Кожнага разу з радасцю адкрываючы для сабе — колькі ж патрыятычных сэрцаў б'ецца за мундзірамі памежнікаў і дашнікаў.

А той юркойцеўскі вышыннік з таго фатальнага дня ні разу не надзеў вратавальнага паса.

Неяк не па-беларуску стаў паводзіцца стары вышыннік. Бо сапраўдныя беларусы вельмі ж любяць страхавацца.

Ад самага пачатку дэмантажу СССР Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка пачала страхавацца. І вось нацягнуты страхавачны пас савецкіх сімвалаў, адроджанага камсамолу і ленінскіх суботнікаў. Расейская мова становіцца, па сутнасці, адзінай дзяржаўнай... Беларусь застрахавалася ад самой сябе так надзейна, так апаясалася страхоўкамі, што яны даўноператварыліся ў путы.

Аднойчы «савецкая» страхоўка не спрацуе. Ці хопіць спрыту разблытацца?

У мяне ў памяці не адна гісторыя ад шляхціца Юркойця. Але хочацца, каб вы іх пачулі ад самога апавядальніка. Хутчэй бы.

**Зміцер Бартосік, радыё «Свабода»**

# Перад Дзядамі побач з Зямлёй праляціць буйны астэроід

Нябеснае цела, пазначанае ў астранамічных даведніках як 2015 TB145, праляціць побач з Зямлёй 31 кастрычніка. У гэты дзень у многіх краінах свету святкуюць Хэлоўін — самы таямнічы і страшны дзень у годзе, калі людзі апранаюцца ў касцюмы звышнатуральных персанажаў.

Астэроід набліжаецца з хуткасцю 35 км у секунду, яго дыяметр складае ад 300 да 600 метраў. Для параўнання, дыяметр нашумелага Чалябінскага метэарыта быў 17 метраў, а яго максімальная хуткасць складала 19 км у секунду.

Астэроід максімальна блізка падыдзе да Зямлі два разы: у 13.40 — 15.15 і 21.30 — 23.25 па мінскім часе.

Астраномы заўважылі астэроід дзякуючы аўтаматычнай сістэме тэлескопаў Pan-STARRS на Гаваях, адбылося гэта менш чым два тыдні таму — 10 кастрычніка. Спецыялісты спадзяюцца, што ім удасца атрымаць фатаграфіі астэроіда 2015 TB145 у моманты яго падлёту.

Верагоднасці сутыкнення астэроіда з Зямлёй няма.

**СМ**



## Як трэнера зборнай Беларусі па футболе міліцыя па-хамску абшукала на матчы

Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе Аляксандр Хацкевіч даў вялікае інтэрв'ю *By.tribuna.com*. Расказаў ён і пра тое, як яго абшукалі на матчы чэмпіянату краіны.

«Нядаўна я быў на гульні «Шахцёра» і «Мінска». 20:00. Нядзеля. Вольны ўваход. Чалавек у чорнай форме задае мне пытанне: «Хто такі?» Кажу: «Трэнер нацыянальнай зборнай па футболе». Па рацы ў амапаўца пытаюцца: «Хто там?» — «Нейкі трэнер нейкай зборнай». — «Не нейкі трэнер, — кажу, — а трэнер нацыянальнай зборнай». З рацыі: «Абшукаць!»

Няма пытанняў — абшукалі. «Усё?» — пытаюся. — «Не, вунь туды падыйшоў і паглядзеў у камеру». Каля камеры стаіць такі ж дзяцюк. Я падыходжу, пачынаю ўсміхацца.

Рэакцыя: «Я сказаў: не ўсміхацца наогул!»

Я пайду пасля такога на футбол як глядач? Не. Але ў мяне ёсць праца. Я павінен глядзець матчы», — сказаў Хацкевіч.



## Квартал Асмолаўка ў Мінску можа атрымаць статус культурна-гістарычнай каштоўнасці

Пра гэта паведаміў журналістам 14 кастрычніка на прэзентацыі карэкціроўкі генеральнага плана Мінска галоўны архітэктар УП «Мінскграда» Аляксандр Акенцьеў.

«Для таго, каб абараніць Асмолаўку, павінна быць заканадаўчая падстава, чым можа стаць прызнанне каштоўнасці квартала. Гэта робім не мы, не горадабудаўнікі, а гэта пытанне Міністэрства культуры. Мы толькі рэкамендуем», — зазначыў ён.

Як паведамлялася раней, больш як тысяча жыхароў Мінска падпісала інтэрнэт-петыцыю ў абарону Асмолаўкі. Гэты раён гістарычнага цэнтра горада ўяўляе сабой два невялікія кварталы, абмежаваныя вуліцамі Камуністычная, Куйбышава, Кісялёва і Максіма Багдановіча і разрэзаныя вуліцай Чычэрына. Спраектаваў раён, які будаваўся з канца 1940-х да пачатку 1950-х гадоў, мінскі архітэктар Асмалоўскі для высокапастаўленых чыноўнікаў, супрацоўнікаў тагачаснага штаба Беларускай вайсковай акругі.

**БелаПАН**

## На аўкцыён выстаўлены «Крыж храбрых», якім узнагароджвалі ў войску Булак-Булаховіча

На аўкцыёне *Ay.by* выстаўлены на продаж рэдкі лот — узнагарода войска Станіслава Булак-Балаховіча. На дадзены момант кошт крыжа дасягнуў 17 мільёнаў рублёў.

**АГ**



## Людзі, якія пастаянна мерзнуць, даўжэй жывуць

Спецыялісты з Вашынгтонскага ўніверсітэта даказалі, што людзі, якія пастаянна адчуваюць дрыжыкі, як правіла, даўжэй жывуць. З-за гарманальных змяненняў у іх арганізме запавольваецца метабалізм, што дазваляе захаваць энергію і цяпло.

Тэмпература цела звязана з працягласцю жыцця, высветлілі навукоўцы з ЗША. Гарманальныя змены ў арганізме чалавека прыводзяць да таго, што ён увесь час мерзне. Гэта прыносіць вялікі дыскамфорт, але, як аказалася, з'яўляецца карысным для здароўя.

Эксперты звязалі гэта даследаванне з іншым, у ходзе якога было даказана, што скарачэнне спажывання калорый падаўжае жыццё.

У ходзе эксперыменту 24-м 50-гадовым мужчынам і жанчынам давалі таблеткі-тэрмометры. Частка гэтых паддоследных скарацілa штодзённы прыём калорый на 25%, астатнія не скарачалі рацыён, а актыўна займаліся спортам (бегалі), трэцяя група была кантрольнай. Зніжэнне тэмпературы было зафіксавана толькі ва ўдзельнікаў першай групы, якія скарацілі спажыванне калорый.

Грунтуючыся на дадзеным прынцыпе працы арганізма, навукоўцы плануюць стварыць прэпараты для падаўжэння жыцця.

**Лявон Максюта**

## Букера-2015 атрымаў ямайскі пісьменнік за раман пра спробу забойства Боба Марлі

Пісьменнік з Ямайкі Марлон Джэймс стаў лаўрэатам Букераўскай прэміі за раман пра спробу забойства знакамітага ямайскага музыканта Боба Марлі ў 1970-я гады.

Старшыня журы Майкл Вуд назваў раман «Кароткая гісторыя сямі забойстваў» самай займальнай кнігай з шорт-ліста Букераўскай прэміі — 2015.

Паводле яго слоў, 680-старонкавая кніга «поўная сюрпрызаў», а таксама жорсткіх эпізодаў і ямайскага слэнгу.

Раман, дзеянне якога ахоплівае тры дзесяцігоддзі, заснаваны на рэальным замаху на легендарнага музыканта і апускае чытача ў бурную крымінальную рэальнасць Ямайкі тых часоў.

44-гадовы Джэймс стаў першым выхадцам з Ямайкі, якія трапілі ў шорт-ліст Букераўскай прэміі. «Кароткая гісторыя сямі забойстваў» — яго трэці раман.



Букераўская прэмія ўручаецца штогод з 1969 года і з'яўляецца адной з самых прэстыжных узнагарод у свеце англамоўнай літаратуры.

Лаўрэат прэміі атрымлівае грашовую ўзнагароду ў памеры 50 тыс. фунтаў (76,2 тыс. даляраў).

**АГ**

Кіно

## На мяжы распаду

Барвовы пік
**Жанр:** трылер, драма, жахі
**Рэжысёр:** Гільерма дэль Тора
**У ролях:** Міа Васількоўска, Джэсіка Чэстэйн, Том Хідлстан, Чарлі Ханэм, Джым Бівер, Берн Горман, Лэслі Хоўп, Даг Джонс, Джонатан Хайд
**Адзнака:** 7,5
ЗША, 120 хв.

Канец XIX стагоддзя. Маладая амерыканская пісьменніца Эдзіт Кашынг нечакана губляе бацьку, багатага будаўніка, але знаходзіць суцяшэнне з загадкавым брытанскім баранетам Томасам Шарпам. Яна пераязджае ў велізарны стары маёнтак Алердэйл у Англіі. Але хутка выяўляе, што яе навaспечаны муж і яго сястра Люсіль не тыя, за каго сябе выдаюць, і спрабуе высветліць, што яны хаваюць з такім адчаем і злосцю.

Сцэнар амаль цалкам аўтараскай стужкі Гільерма дэль Тора напісаў яшчэ ў 2006. Рэжысёр, сцэнарыст і прадзюсар фільма, ён выдаў каля 12 версій сцэнара, перш чым спыніцца на канчатковым варыянце. Нават падчас прадакшну ён прыдумляў новыя сцэны. Фільм — страшная казка ў фірмовым стылі дэль Тора.

Галоўная роля дасталася маладой аўстралійскай акцёрцы Міі Васількоўскай. Падступную сястру Томаса, Люсіль, сыграла ўладальніца «Залатога глобуса — 2013» Джэсіка Чэстэйн, занятая ў вядомых «Інтэрстэлары» (2014) і «Марсіяніне» (2015). Роль Томаса Шарпа, самага супярэчлівага персанажа, выканаў брытанец Том Хілдстан, вядомы ў абліччы Локі ў стужках па сусвеце *Marvel*.

Здымкі праходзілі ў Кінгстане (Антарыя, Канада). Дом, у якім разгортваюцца падзеі фільма, разам з усімі прадметамі быў адбудаваны з нуля на здымачнай пляцоўцы. Па задумцы рэжысёра, асабняк — паўнапраўны ўдзельнік сюжэта, які ёсць «жывым арганізмам на мяжы распаду». Прывіды, якія насяляюць дом і якіх можа бачыць толькі Эдзіт, афарбаваныя ў чырвоны колер, — дэль Тора хацеў зрабіць іх не падобнымі да класічных выяў.

Стужка адметная і надзвычай




стылёвай карцінкай. Асноўная гама — бела-чырвоная, а касцюмы і антураж наўмысна вычварныя. Пры стварэнні саўндтрэка выкарыстоўваліся гукі «стагоддзя машын» — ляск трамваяў, гудкі паравозаў і параходаў, каб перадаць атмасферу індустрыйнай Англіі XIX стагоддзя.

Стужка ўтрымлівае сцэны гвалту і мае абмежаванне 18+.

**Настасся Уласава**

# Шукалі ў іншай вобласці, каб загнаць на выбары

Я знаходжуся цяпер у дэкрэтным адпачынку. Да яго працавала ў адной з школ Асіповіч (Магілёўская вобласць). Цяпер пражываю адтуль далёка, нават у іншай вобласці. На працы маёй гэта цудоўна ведаюць. Ведаюць і тое, што мы з малым часта бываем у пераездах: у мужа, у свекрыві, ды яшчэ дзе заўгодна.

Таму ў мяне і ў думках не было, што будуць званіць з працы, каб схадзіла на выбары. Але ж...

Першы званок на мабільнік адбыўся яшчэ ў пятніцу, 9 кастрычніка. У дзень выбараў пазваніла ўжо сама дырэктарка школы. Гэтую пасаду зусім нядаўна атрымала маладая жанчына, якая калісьці сама спрабавала дабіцца нейкай справядлівасці ў нашай установе. Вось і дамаглася, але не праўды і свабоды, а грошай і няволі...

Беларуская камедыя…

**Вольга (адрас у Рэдакцыі)**

Фельетон

# Планета на дваіх

*«Вы хоць разумееце, што нарабілі?»*
*(У.У. Пуцін на 70-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН)*

Не! Яны не разумеюць…

Правільна разумеюць міжнародную сітуацыю толькі два прэзідэнты. Калі б не іх выступы, то і слухаць не было б чаго!

Усе астатнія прэзідэнты, каралі і каралевы, шэйхі і парламенты з падзішахамі — спужаліся, разгубіліся, заблыталіся і пайшлі не тым шляхам.

Беларусь і Расія паспяхова завяршылі папярэдняе тысячагоддзе. Новае тысячагоддзе завяршыць усеагульны росквіт у дзвюх асобна ўзятых дзяржавах пад кіраўніцтвам дзейных прэзідэнтаў.

Але пакідаць у бядзе больш за 150 дзяржаў, якім не пашэнціла з кіраўнікамі, — гэта не па-нашаму!

Планету трэба раздзяліць на дзве роўныя паловы, як таблетку.

Прэзідэнты, якім усё ўдаецца лепш за ўсіх, будуць кіраваць кожны сваёй тэрыторыяй.

Ні войнаў, ні канфліктаў, ні ўцекачоў, ні беспрацоўных, ні галодных — усе пагалоўна шчаслівыя, разумныя, працавітыя, як беларусы з расейцамі. Ніхто не жадае драбніцца на Македонію са сталіцай у Макееўцы і Лугандонію (сталіца Луганск). Усе аб'ядналіся вакол сваіх важакоў па выніках выбараў — самых чэсных і самых справядлівых на планеце, якія надалей будуць праводзіцца 1 раз на 85 гадоў (у сувязі з нечуваным ростам працаздольнасці жыцця). Вядома, крок гэты вельмі адказны: трэба параіцца з дзецьмі, унукамі, атрымаць дабраславенне ад бацюшкі, папы, мамы з Цэнтрвыбаркама. Дзеці — унікаюць, бацюшкі — дабраслаўляюць, у мамы — усе працэнты гатовыя. Якое шчасце для ўсяго чалавецтва! Якія перспектывы!

**Таццяна Карэліна, Мінск**

Віншаванні

**Віншуем Васіля і Маргарыту Бабічаў** з узяццем шлюбу. Сябры



Дарога да сябе

## «Зачапіла капітальна гэная філфачка, і ўжо не адпусця»

Я ж ціпа з горада, з Маладэчнага.. Пяскі, Лясныя, Геленова — там круціўся. Канец школы і пачатак інстытута стараўся гаварыць чыста парускаму, каб не думалі, што калхознік. Асабліва на першым курсе гістарычнага факультэта педінстытута.

Спадабалася была мне адна дзевачка. Нават імя не згадаю цяпер. Жыла ў абшчазе. З філфака. Ведаючы англійскую мову і трохі лацінскіх словаў — пераклад слова «філфак» на цяперашні розум даволі камічны. Але тады ўсё было ў рамонках.

А дзевачка была будушчым прыпадавацілем рускага языка, і ўжэ на трэцім курсе! І вот мяне запрасіла яна на вячэру ў абшчагу філфака, а я спазніўся — на трэніроўку, у бібліятэку, тралейбусамі, туды-сюды — спазніўся капітальна, але явіўся.

І заходжу я такі з букецікам у пакой, здраствуйце вам, і ўсё такое, а яна мне будзе казаць: ну і гдзе ты был! уже все остыло! Я кажу: я был ходіл в біблютеку. Ха-ха-ха! Ты что, по-русскі не умеешь нормально говоріть? Умею гаварЫць… Ты рэ мягко выговорі! Выгаварываю! Ой, девочкі, вы его послушайте только!..

Карацей, развярнуўся і пайшоў к сабе. І задумаўся. Зло ўзяло!

З другога курса пастанавіў гаварыць толькі па-беларуску. Быў страшным ультра ў гэтым пытанні. Цяпер хто мне плоця — ясна, гавару і па-руску з тым і па-якоўску магу. Але дома, з сябрамі і тымі, каму веру, — толькі па-беларуску.

Карацей, зачапіла капітальна гэная філфачка, і ўжо не адпусця.

**Васіль Грынь, Скрыплеў (Валожынскі раён)**

За словамі

**«Рускі чалавек»**

Кажуць: «рускі чалавек». Але вось ніколі не сустракаў формы «я — беларускі чалавек». Або, напрыклад, «я — украінскі (польскі, нямецкі) чалавек». Мы, беларусы, немцы, шведы, «самі свае» людзі. І мне тое падабаецца.

**Niemand**

# Інстытут датэрміновага галасавання павінен быць ліквідаваны

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

498:813. Як вам гэткая адносіна, пані і панове? Першая лічба азначае лік грамадзян, якія прагаласавалі датэрмінова, другая — лік грамадзян, якія прыйшлі на выбарчы ўчастак №100 Маскоўскага раёна стольнага места Менскага. Усяго на ўчастку 1904 выбаршчыкі.

Думаю, што нешта падобнае назіралася і ў іншых гарадах нашай праватой і дэмакратычнай дзяржавы.

Дзейнічае не толькі адміністрацыйны прымус, але і заахвочванне. Тым, хто датэрмінова прагаласаваў, даюць адгул або прыплюсоўваюць адзін дзень да водпуску. Маўчу пра студэнтаў — гэтых маўклівых ягнят.

Памяшканне, дзе праводзіцца датэрміновае галасаванне, не апячатваецца, а ключы, калі камісія прыпыняе працу, забірае міліцыянер. І гэта не толькі на «маім» участку. Гэта паўсюль у гарадах. Дый што б дало тое апячатванне, калі пячатка ўчастковай камісіі — толькі падабенства пячаткі? Яна ўсюды аднолькавая: і ў Сапоцкіне, і ў Хоцімску. Ключы ж ад памяшкання, дзе праводзіцца датэрміновае галасаванне, не толькі ў міліцыянера — іх дублікаты ў дырэкцыі школы, дома культуры, іншай установы. А скрыня для галасавання не празрыстая. Дый якая была б карысць ад празрыстай скрыні ў такіх умовах, калі назіральнікі не маюць права паставіць сваю пячатку ці пломбу?

Заканадаўца, уводзячы інстытут датэрміновага галасавання, або не падумаў, або добра падумаў, што галасаванне адбываецца ў перыяд агітацыйнай кампаніі. У недэмакратычных краінах, як вядома, галасаванне ў перыяд агітацыйнай кампаніі не праводзіцца. Там нават ёсць дні цішы. Гэта калі за адзін дзень да выбараў агітацыйная кампанія спыняецца.

Некалі я быў выказаў думку, што для таго, каб пазбегнуць махлярства пры датэрміновым галасаванні, неабходна штодзённа падлічваць галасы, пададзеныя за і супраць кожнага кандыдата. Але ж гэта ў немалой ступені ўплывала б на настрой выбаршчыкаў, было б таксама агітацыяй, кажу цяпер я.

З усяго, пра што я тут напісаў, вынікае адна выснова: інстытут датэрміновага галасавання неабходна ліквідаваць як супярэчны агульнапрынятым нормам выбарчага права.

Паштовая скрынка

**Ігару Брагінскаму з ІК-17** горада Шклова. Устанавіць праўду на аснове дасланых Вамі матэрыялаў немагчыма, таму для публікацыі яны не надаюцца.

# Педафіл атрымаў 15 гадоў

Жыхара Маладзечна асудзілі за педафілію. Сярод яго ахвяраў — 9-гадовыя дзеці.

Асуджанаму 35 гадоў. Супраць яго было заведзена 10 крымінальных спраў.

Цягам 2009 года мужчына гвалціў дачку сваёй сужыцелькі і яе сяброў, апавёў «Рэгіянальнай газеце» начальнік аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС Дзмітры Сухоцкі.

Як паведамляе следчы, у кватэру, дзе жыў асуджаны, прыходзілі і іншыя дзеці, знаёмыя дачкі сужыцелькі. Ён гвалціў іх таксама: і хлопчыкаў, і дзяўчынак, без разбору. Самым малодшым было па 9 гадоў.

Пасля 2009 года мужчына перастаў гвалціць і вярнуўся да нармальнага жыцця. Дзеці нікому нічога не расказвалі, а сужыцелька ні пра што не здагадвалася.

– Ёй цяжка паверыць і дагэтуль, — зазначае Дзмітры Сухоцкі. — Падчас расследавання праводзілі спецыяльныя экспертызы, з дзецьмі размаўлялі ў прысутнасці спецыяльных псіхолагаў.

Пацярпелі трое. Завялі дзесяць крымінальных справаў, паколькі ад дамаганняў дзеці пацярпелі не адзін раз. Следчы мяркуе, яны вельмі доўга маўчалі, таму што мужчына іх запалохваў.

Некалькі месяцаў таму гвалтаўніка асудзілі на 15 гадоў зняволення. Расследаванне справы цягнулася цягам чатырох месяцаў.

— Гэта натуральна, бо трэба было працаваць з дзецьмі, — тлумачыць следчы. — Дзіця не стане так проста расказваць сваякам ці супрацоўнікам міліцыі пра гвалт. З імі мусяць размаўляць спецыялісты. Дзіця можа проста замкнуцца, і тады ўвогуле нікому нічога не распавядзе.

Асуджанага затрымалі ў студзені 2015 года. Раней ён жыў каля Чысці, потым перабраўся ў Маладзечна. Мужчына ўжо быў судзімы. Адкуль стала вядома пра гвалт, следства не раскрывае.

**Улад Швядовіч**

## Увага! Вышук гвалтаўніка!

Мінская міліцыя працягвае шукаць мужчыну, які падазраецца ў серыі згвалтаванняў. Гаворка ідзе пра нераскрытыя злачынствы, якія мелі месца ў 2002, 2004, 2014, 2015 гадах.

Усе злачынствы былі здзейснены па адной і той жа схеме. Як паведамляе ГУУС Мінгарвыканкама, невядомы нападаў на маладых жанчын (у адным выпадку пацярпела непаўналетняя) у бязлюдным месцы позним вечарам ці ўначы. Спачатку ён ішоў за сваімі ахвярамі, потым даганяў, заводзіў размову — спрабаваў знаёміцца. Пасля чаго наносіў моцныя ўдары па целе і галаве, затым гвалтаваў.

З паказанняў пацярпелых вылучаныя яго прыкметы: на выгляд 40—50 гадоў, рост каля 170 см, сярэдняга целаскладу, валасы цёмныя кароткія, твар авальны. Ніз твара круглявы, нос вялікі, па форме спінкі прамы. «Мяшкі» пад вачыма. На твары могуць быць зморшчыны. Асаблівасцяў гаворкі, акцэнту няма. Праўша. Хада роўная без асаблівасцяў. Апошні раз (летам) быў апрануты не па сезоне. На галаве вязаная шапка цёмнага колеру з адваротам.



Куртка ўцепленая, падоўжаная, цёмнага колеру. Пры гэтым пацярпелыя адзначылі агульны неахайны і нягеглы знешні выгляд гвалтаўніка, ад яго ішоў непрыемны пах. Ёсць здагадкі, што злачынец можа быць жыхаром прыватнага дома, злоўжывае спіртным.

Тэл.: (029) 346-90-45, (029) 149-99-90 або 102. Канфідэнцыяльнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

**Улад Швядовіч**




## Смерць гандбаліста дагэтуль выклікае пытанні

Ад часу гібелі гандбаліста «СКА-Мінск» і зборнай Беларусі Рамана Лукашука мінула больш за год. У верасні 2014 года Раман Лукашук атрымаў смяротныя траўмы каля сталічнага клуба «Мулен Руж». За гэта 6 гадоў пазбаўлення волі далі Максіму Урубухаву, які адпачываў у тым жа месцы ў тую ж трагічную ноч.

Пры гэтым бацька забітага гандбаліста Аляксандр Лукашук не паверыў у версію следства. Ён перакананы, што Урубухава падставілі, а ўдарыў сына іншы перспектыўны гандбаліст.

Звароты бацькі ў праваахоўныя органы спачатку далі вынік. Пракуратура Мінска, прыслухаўшыся да яго довадаў, падрыхтавала пратэст. Наглядны орган угледзеў «непаўнату і аднабаковасць следства» падчас разгляду справы ў судзе першай інстанцыі. Але ў Мінгарсудзе вырашылі, што ранейшае рашэнне «адпавядае фактычным акалічнасцям справы». Прысуд пакінулі ў сіле.

Аляксандр Лукашук, бацька забітага спартсмена, лічыць, што ад самага пачатку следства вялося неаб'ектыўна, а паказанні галоўнага сведкі відавочна разыходзяцца з тым, што бачна на відэазапісах. Напрыклад, сведка кажа, што гандбаліст упаў і ўдарыўся аб дзверы таксі. На відэа машыны не бачна.

«Усё абставілі так, нібыта сын быў п'яны, а яго смерць здарылася ад «бытавухі», — выказваецца Лукашук.

Сумневы ў працы следства застаюцца і ў жонкі Максіма Урубухава, якога асудзілі на 6 гадоў за ўдар, нанесены Раману Лукашуку.

У тую ноч Максім быў з сябрамі, «адпрасіўся» ў цяжарнай жонкі адпачыць. Калі вярнуўся дадому, то жонка нічога падазронага не заўважыла. Жылі, як і раней, усё было нармальна. А праз тыдзень хлопца затрымалі.

«Праблема ў тым, што ён нічога не памятае пра тую ноч. І я яму веру. Ведаю Максіма восем гадоў, і ён мне ніколі не хлусіў. Як мы ажаніліся, ён у мяне не піў. За паўтара года ўпершыню выпіў, і вось так яго накрыла моцна. Але следчы сказаў, што на відэа ён бачны. Што ён б'е, уцякае, нешта там пінае. Я ў яго пытаюся: «А чаму ты ў гэтым прызнаўся?» Ён: «Сказалі, што на відэа я ёсць». А на справе відэазапісы аказаліся надзвычай сумнеўнымі», — кажа Ірына, жонка Максіма Урубухава.

Асуджаны працаваў будаўніком. Яго рост і камплекцыя — сярэднія. Атлетам ён не выглядае, адзінаборствамі не займаўся. Нават на фоне Рамана Лукашука, які не быў самым габарытным гандбалістам, Урубухаў выглядаў, мякка кажучы, сціпла.

У многіх выклікала неразуменне версія, што звычайны хлопец сярэдняй камплекцыі мог смяротна траўмаваць добра падрыхтаванага спартсмена.

**«Еўрарадыё»**

## Артыст затрымаў злодзея

Артыст балета Вялікага тэатра Кірыл Фурман нядаўна затрымаў на вуліцы злодзея, які вырваў сумачку ў жанчыны. Справіцца са злачынцам яму дапамог кіроўца прыватнай кампаніі Аляксандр Аглушэвіч, які апынуўся непадалёк.

Усё пачалося з таго, што мужчына вырваў з рук жанчыны сумачку і кінуўся на ўцёкі. Артыст быў непадалёк і пачуў крык аб дапамозе.

«А ў дзяцінстве бацькі навучылі мяне: калі чалавек у бядзе, то яму трэба дапамагчы», — сказаў хлопец.

Кірыл пабег за рабаўніком, але той спыніўся і дастаў нож. «Не правакуй мяне на «макруху», — прыгразіў ён Кірылу.

Фурман быў гатовы да бойкі, аднак злодзей зноў пачаў уцякаць, а хлопец зноў пабег за ім. Пагоню ўбачыў Аляксандр Аглушэвіч, што рамантаваў машыну.

«Калі Кірыл падаў мне знак, мы вырашылі заблакаваць уцекача», — распавёў ён.

Пасля гэтага рабаўнік выкінуў сумку, але хлопцы працягнулі даганяць яго.

«Сумку мы вярнулі. Але мужчыну трэба было затрымаць. Паршае, ён пагражаў нажом. Падругое, здзейсніў рабаванне. Мы разумелі: калі яго не пакараць, ён і далей будзе здзяйсняць такія ўчынкі», — растлумачыў артыст.




Праўда, злодзей спыніўся сам па сабе, пусціў слязу: стаў распавядаць, што ў яго хварэе сястра і ім патрэбныя грошы на лячэнне. Але Кірыл успамінае, што мужчына быў п'яны, і мяркуе, што грошы былі патрэбныя на выпіўку.

«Неўзабаве ён змірыўся з тым, што збегчы не атрымаецца, папрасіў закурыць і спакойна стаў чакаць прыезду міліцыі», — распавёў Аляксандр.

За праяўленую мужнасць маладых людзей атрымалі лісты падзякі і падарункі з рук начальніка Кастрычніцкага РУУС Андрэя Сачкова.

**УШ**

## Сціслa

### «Галасы» загадалі забіць

Пенсіянер з Ваўкавыска засек жонку. Міліцыянтам ён патлумачыў, што на забойства яго падштурхнулі «галасы», якія ён чуў ужо пэўны час.

### Смерць у агні

18 кастрычніка пры пажары ў нежылым доме ў Цэнтральным раёне сталіцы загінула тры чалавекі. Прычыны пажару высвятляюцца.

### Трапіў пад цягнік

Мужчына 73 гадоў быў смяротна траўмаваны цягніком на чыгуначным перагоне ў Бабруйскім раёне. Паведамляецца, што, пераходзячы пуці, мужчына замарудзіўся і не паспеў адысці на бяспечную адлегласць.

### Забілі праз машыну

У Магілёўскай вобласці трое маладых людзей засеклі ўладальніка дарагога «Лэнд Ровера». Ужо ў лесе, куды маладыя людзі прыехалі закопваць труп, яны сякерай засеклі і 23-гадовую дзяўчыну, якая ўдзельнічала разам з імі ў злачынстве.

### Бабуля драг-дылер

У кватэры бабруйскай пенсіянеркі знайшлі 80 кілаграмаў насвая. Жанчыну затрымалі, паходжанне рэчыва высвятляецца.

### Загінуў рабочы

На адным з брэсцкіх прадпрыемстваў рабочы залез у корпус бетонамяшалкі для яе абследавання. Раптам спрацаваў механізм, і мужчына атрымаў сур'ёзныя траўмы. А памёр у бальніцы.

### Двойчы трапіла пад машыну

У Пухавіцкім раёне жанчына, якая рухалася па праезнай частцы без флікераў, трапіла пад легкавое аўто. Ад удару яе адкінула на другую паласу, дзе яна трапіла пад колы фуры. Жанчына памерла на месцы.

### Ахвяра п'янай бабулі

У Столінскім раёне п'яная бабуля пераносіла 6-гадовага ўнука, інваліда I групы, з пакоя ў пакой. Але яна не ўтрымала яго, хлопчык упаў і ўдарыўся галавой аб дзверы. Хлопчыка адвезлі ў шпіталь, але ён памёр на наступны дзень.

**УШ**

# На рынак пластыкавых картак Беларусі можа прыйсці American Express

На картачны рынак Беларусі, імаверна, прыйдуць сістэма *American Express* і адна з азіяцкіх плацежных сістэм, сведчаць звесткі Нацыянальнага банка.

«З вялікай доляй імавернасці на эмісійны сегмент картачнага рынку Беларусі прыйдзе *American Express* — адпаведныя мерапрыемствы, скіраваныя на пачатак эмісіі картак гэтай сістэмы, ужо праводзяцца адным з беларускіх банкаў», — інфармуюць спецыялісты галоўнага банка краіны ў артыкуле, апублікаваным у часопісе «Банкоўскій вестнік» Нацбанка.




Акрамя таго, чакаецца, што на беларускі рынак пластыкавых карт выйдзе адна з азіяцкіх плацежных сістэм. «Але якая сістэма, кітайская *UnionPay* ці японская *JCB*, будзе залежаць ад актыўнасці саміх сістэм, бо рынак гатовы да працы з імі», — адзначаюць прадстаўнікі Нацбанка.

Цяпер эмітуюць пластыкавыя карткі міжнародных плацежных сістэм *Visa* і *MasterCard*, а таксама нацыянальнай плацежнай сістэмы «Белкарт».

Паводле дадзеных Нацыянальнага банка, на 1 ліпеня 2015 года ў абароце знаходзілася 12,26 млн плацежных картак. Пры гэтым доля рублёвых картак склала 96,1%, валютных — 3,9%.

**БелаПАН**

# У выходныя Еўропа пяройдзе на зімовы час



У ноч на нядзелю краіны Еўропы пераходзяць на зімовы час, перавёўшы стрэлкі на гадзіну раней. Беларусь адмовілася ад пераходу на сезонны час у 2011 годзе.

Такім чынам, пачынаючы ад гэтай нядзелі і да канца сакавіка розніца ў часе паміж Беларуссю і Літвой зноў будзе складаць адну гадзіну, а з Польшчай, Германіяй, Італіяй — дзве гадзіны.

**АГ**

# Сяргей Жадан атрымаў прэстыжную прэмію Angelus, якую раней здабыла Алексіевіч




Украінскі пісьменнік Сяргей Жадан атрымаў польскую літаратурную прэмію *Angelus*, якой адзначаюць пісьменнікаў з Цэнтральнай Еўропы. Як паведамляе афіцыйны сайт конкурсу, журы адзначыла яго раман «Месапатамія».

Жадан атрымаў чэк на больш чым 40 000 даляраў, а таксама статуэтку аўтарства Евы Расана. Ён стаў ужо трэцім украінскім пісьменнікам, што здабыў узнагароду. Раней яе атрымлівалі Юрый Андруховіч і Аксана Забужка. У 2011 годзе *Angelus* атрымала Святлана Алексіевіч за пераклад кнігі «У вайны не жаночнае аблічча».

**ЗП**

# Апублікаваны невядомы дзённік Уладзіміра Караткевіча

У свежым нумары часопіса «Дзеяслоў» апублікаваны дзённік пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, датаваны 1965—1966 гадамі.

Як піша Ціхан Чарнякевіч на сайце *lit-bel.org*, дзённік уяўляе сабой бухгалтарскі гросбух вялікага фармату, старонкі якога з абодвух бакоў запоўненыя круглым, вельмі чытэльным почыркам Караткевіча. Як і ў шматлікіх іншых рукапісах пісьменніка, нямала месца тут адведзена аўтарскім малюнкам. Важная частка дзённіка — падарожжа ва Уладзівасток разам з Рыгорам Барадуліным і Генадзем Кляўко. Дзякуючы падарожжу з'явілася «Чазенія» — адзін з самых пранікнёных твораў пра каханне ў беларускай літаратуры. Караткевіч фактычна пачынае пісаць «Чазенію» ў дзённіку, запісваючы для памяці пейзажы прыродных запаведнікаў, але імя галоўнай гераіні аповесці ў пабытавы аповед так і не трапляе.



Дзённік часта запаўняўся Караткевічам постфактум, фактычна — гэта самастойны літаратурны твор, дзе ёсць месца развагам пра беларускае асяроддзе, пытанням пісьменніцкай тэхнікі, праблемам планетарнага маштабу. Аднак нямала старонак абʼёмнага сшытка прысвечана і пабытавым апісанням: жыццю і працы пісьменніка ў рагачоўскай хаце, распаведам пра паходы ў рэдакцыі літаратурных часопісаў, сустрэчам з пісьменнікамі і чыноўнікамі.

**Радыё «Свабода»**

# ЕС і Расія сумесна адправяць беспілотны апарат на Месяц

**Мэта місіі — вывучыць магчымасць стварэння на Месяцы пастаяннага паселішча.**

Палёт беспілотнага апарата ў рамках місіі «Месяц 27» павінен адбыцца праз пяць гадоў. Апарат прызямліцца ў паўднёвым паўшар'і Месяца, дзе зоймецца вывучэннем глебы і атмасферы на наяўнасць там вады. Калі там будуць выяўленыя дастатковыя запасы вады, то на Месяц могуць быць адпраўленыя людзі.

Кіраўнік ESA заяўляе, што разглядаецца магчымасць стварэння пастаянна населенай базы на Месяцы.

Паведамленне аб сумеснай з Расіяй місіі супала з нарастаннем палітычных цэрцяў паміж Масквой і Еўропай, што можа паставіць пад пытанне поспех гэтага праекту.

Адпраўка людзей на Месяц плануецца не раней за 2030 год.

Раней, таксама ў кастрычніку, было абвешчана, што Расія сумесна з ЗША, ЕС і Японіяй зоймецца вывучэннем Марса, Месяца і Меркурыя.

**ЛМ**

# Цягам месяца з'явяцца першыя чыпсы з беларускай бульбы, але з пачкам «Анега» спудлавала




5000 тон спецыяльнай чыпсавай бульбы сабралі ў 21 сельгаспрадпрыемстве Беларусі на замову кампаніі «Анега».

Для чыпсаў з сырой бульбы патрэбныя асаблівыя гатункі: важныя правільная форма, сярэдні памер і, галоўнае, мінімальнае ўтрыманне цукру (не больш за 0,25%). Інакш прадукт цямнее пры тэрмічнай апрацоўцы.

Раней з беларускай бульбы рабілі толькі чыпсы пласцінкамі. «Анега» вырашыла асвоіць і класічны фармат — як у «Lay's».

Пад новы прадукт прыдумалі і новую абгортку. Але памыліліся са словам. Напісалі «Смятана з лукам» замест «Смятана з цыбуляй». Толькі пасля таго, як у інтэрнэце паднялі на смех гэты факт, тэкст выправілі, і ў крамы пойдзе правільны варыянт.

**МБ**

# Месі, Ібрагімавіч, Левандоўскі — прэтэндэнты на «Залаты мяч» — 2015

ФІФА на афіцыйным сайце абвясціла спіс з 23 прэтэндэнтаў на «Залаты мяч» — 2015.

Дадзены спіс сфармаваны футбольным камітэтам ФІФА і групай экспертаў французскага выдання *France Football*. Галасы за прэтэндэнтаў будуць аддаваць капітаны і трэнеры нацыянальных каманд, а таксама прадстаўнікі СМІ. 30 лістапада прэтэндэнтаў на ўзнагароду



застанецца трое. Цырымонія ўручэння «Залатога мяча» адбудзецца 11 студзеня 2016 года ў Цюрыху.

Кандыдаты на атрыманне «Залатога мяча» — 2015: Серхіа Агуэра, Гарэт Бэйл, Карым Бензема, Крышціяну Раналду, Кевін Дэ Брэйн, Эдэн Азар, Златан Ібрагімавіч, Андрэас Ін'еста, Тоні Кроас, Роберт Левандоўскі, Хаўер Маскерана, Лііянэль Месі, Томас Мюлер, Мануэль Ноер, Неймар, Поль Пагба, Іван Ракіціч, Ар'ен Робен, Хамес Радрыгес, Алексіс Санчэс, Луіс Суарэс, Яя Турэ, Артура Відаль.

**АГ**

# У рэкламе маскоўскага тэлешоу «Голоса большой страны» Беларусь паказаная часткай Расіі

У інтэрнэце з'явіўся рэкламны ролік расійскага музычнага шоу «Голоса большой страны», якое стартуе ў 2016-м. У ім Мінск, а таксама Ерэван, Тбілісі і Астана, паказаныя ў шэрагу расійскіх гарадоў, адкуль таленты «з'язджаюцца ў сталіцу» — гэта значыць, Маскву.

Абураныя беларусы ў адказ размясцілі на сайце *Change.org* петыцыю на адрас Міністэрства замежных спраў Беларусі. Яны заклікаюць міністэрства «выканаць абавязак перад радзімай» і




«накруціць хвост каму трэба» за гэтую вялікадзяржаўную некарэктнасць.

**СМ**

# Трыумф «Свабоднага тэатра» ў Londане


Мікалай Халезін і Наталля Каляда

Беларускі антысістэмны тэатр адзначыў 10-годдзе на радзіме Шэкспіра. Адбыўся канцэрт салідарнасці з забароненымі артыстамі з усяго свету і з народам Беларусі «I'm with the Banned» (Я — з забароненымі). У ім узялі ўдзел каманды з забаронных спісаў: беларускі гурт **Сяргея Міхалка** *Brutto*, які цяпер базуецца ва Украіне, забароненыя ў Расіі ўкраінскі «Бумбокс» і расійскі *Pussy Riot*. А завяршаў канцэрт выступ сусветнай рок-легенды — **Дэвіда Гілмара** з *Pink Floyd*.

Таксама з прамовамі салідарнасці і ўрыўкамі з п'ес «Свабоднага тэатра» выступалі зоркі кіно, тэатра і музыкі — **Кім Кэтрал**, **Ніл Тэнант**, **Джульет Стывенсан**, **Вікторыя Мадэста**, **Джэрэмі Айранс**.

Лагатып для праекта распрацаваў кітайскі мастак-дысідэнт **Ай Вэйвэй**.

У зале на некалькі тысяч чалавек луналі ўкраінскія і беларуская нацыянальныя сцягі.

Канцэрт транслявалі «Бі-бі-сі», а таксама беларускі «Белсат», украінскае «Еспресо ТВ» і расійскі «Дождь».

«Свабодны тэатр» быў заснаваны ў 2005 годзе рэжысёрамі **Мікалаем Халезіным** і **Наталляй Калядой**. Тэатр стваралі дзеля мастацкага супрацьву афіцыйнай эстэтыцы.

Спектаклі «Свабоднага тэатра» праходзілі ў андэграўндных памяшканнях і часам сканчаліся міліцэйскімі пагромамі.

Дырэктар тэатра Халезін і арт-дырэктар Каляда (яны муж і жонка) у 2011 эмігравалі ў Вялікабрытанію.

**Сяргей Мікулевіч**

## «Чырвоны штраль»: фінальны альбом «Крамбамбулі»



Слухаеш маладыя гурты на радыё «Сталіца» — і вечнае пытанне круціцца ў галаве: чаму плача песня наша? Нуда суцэльная, мінор і самакапанне. Магчыма, трэба пражыць у Беларусі паўстагоддзя, як Лявон Вольскі, каб бачыць светлінку ў рэчаіснасці 21-га года кіравання Лукашэнкі. Гэта я пра новы альбом гурту «Крамбамбуля».

Шкада, што Лявон Вольскі «Крамбамбулю» самараспускае. Яе развітальны «Чырвоны штраль» — з'ява ўзроўню «Народнага альбома».

Толькі ён не пра Заходнюю Беларусь — аб'ект няясны людзям на ўсход ад Ракава, а пра такую блізкую сэрцу кожнага беларуса з'яву, як партызанка ці паўстанцтва: «І дома, і на працы — у нас адны паўстанцы». У камплекце ідуць вечныя спадарожнікі партызанкі: кантрабанда, любоўная лірыка і гераічны пафас.

«Чырвоны штраль» — гэта культавая віленская кавярня пачатку XX ст., дзе, згодна з легендай, у 1916 годзе, пасля сустрэчы з польскай і літоўскай інтэлігенцыяй, браты Луцкевічы адмовіліся ад ідэі аднаўлення Рэчы Паспалітай і скіравалі намаганні на дасягненне беларускай незалежнасці.

У песнях «Штраля» — не так, як у «Народным альбоме», — зусім мала выяўных часавых маркераў. Хочаш — уяўляй пад музыку «Зялёны Дуб», хочаш — бацьку Міная. А можна і на ўкраінскую сітуацыю экстрапаляваць. Партызанскі альбом якраз да цяперашніх трывожных часоў:

Нічога мне не бракавала,<br>
Але прыйшла да нас навала<br>
І вось у лесе я, рабяты,<br>
Сваім камандую атрадам.

Тыповая гісторыя ўдзельніка добраахвотнага батальёна АТА.

Гэта цытата з песні «Каб мы калі каму чаго». Яе прыпеў цалкам складаецца з беларускай безэквівалентнай лексікі — на замежнай мове яго сэнс перадаць немагчыма:

Каб мы калі каму чаго —<br>
Дык мы ніколі нічога ніякага.<br>
А калі што якое —<br>
Ды што там якое...<br>
Гэй!

Але беларусу ж усё ясна, праўда?

Для паўнаты карціны Вольскі ўключыў у альбом суперхіт старога N.R.M. — «Партызанскую», перайграную з новымі музыкамі, і — на завяршэнне — «Свабоды не стрымаць». На яе аптымістычнай ноце Лявон Вольскі сыходзіць у лясы партызаніць. «Іншых варыянтаў існавання ў сучасных умовах не бачым», — напісаў музыка.

**ІН**

**Развітальны канцэрт «Крамбамбулі»**

пройдзе ў Вільні 7 лістапада. Канцэрт адбудзецца ў новай канцэртнай зале Compensa, разлічанай на 4000 гледачоў. Беларусы могуць атрымаць бясплатныя візы.

**Фотафакт**




**Памятныя камяні і мячы паўсталі на месцы яшчэ адной бітвы часоў ВКЛ**

Мемарыяльныя камяні і мячы-крыжы з'явіліся нядаўна на месцы бітвы каля вёскі Кушлікі на Полаччыне, дзе ў 1661 годзе нашы вяры Казіміра Жаромскага і Стэфана Чарнецкага разбілі армію маскоўскага ваяводы Івана Хаванскага.

У выніку перамогі было захоплена шмат палонных, увесь абоз і артылерыя непрыяцеля, а таксама 130 варожых сцягоў. Пасля разгрому пад Кушлікамі расейскія войскі мусілі часова спыніць ваенныя дзеянні на абшары Беларусі.

**In memoriam**

# Ала Бабкова

Кінакрытыка Алы Бабковай не стала 15 кастрычніка. Ёй было 77 гадоў. Пахавалі яе на могілках у Атоліне.

Народны артыст Беларусі, рэжысёр, кінадакументаліст **Віктар Дашук** ведаў Алу Бабкову ўсё сваё жыццё ў кінематографе, яны раўналеткі. Ён адзначае, што ў вялікай кагорце кінакрытыкаў яна была адным з тых нямногіх, якія сталі крышку вышэй за астатніх: «Ала Бабкова паводле свайго статусу, паводле сваіх ведаў, паводле сваіх адносінаў да творчых людзей, да беларускага кіно выступала не проста як кінакрытык, а як грамадзянін сваёй краіны. Яна сама была вельмі творчай асобай, таму што многія прафесіяналы, часто тут хаваць, лічаць, што любыя крытыкі — гэта няўдалыя людзі ў творчасці. Што тычыцца Алы Бабковай, — гэта чалавек, які разумеў высокае мастацтва. З таго савецкага пакалення сур'ёзных людзей у кінакрытыцы, якія маглі даць не зацікаўленую, а аб'ектыўную ацэнку ці параду, быць саўдзельнікам творчага працэсу. Такіх людзей ужо, бадай, не засталося. Яна была «апошняя з магікан».

Рэжысёр **Юры Хашчавацкі** кажа, што для тых, хто ведаў Алу Бабкову, гэта вялікая страта: «Мы яе называлі «камсамолка», укладаючы ў гэта толькі станоўчы сэнс. Бо яна была сумленная і прынцыповая, як першыя камсамольцы ў кнігах і фільмах. Яна заўсёды жыла паводле сумлення. Многім людзям даводзіцца ісці на кампраміс, саступаць нягоднікам... Ала ніколі гэтага не рабіла. Яна магла памыляцца, як і ўсе мы, але яна заўсёды была прамая, шчырая. Гэта бліскучы характар, прафесіянал высокага ўзроўню, добры сябар».



«Мы не адзін раз былі з ёй у камандзіроўках, на розных кінафорумах, — кажа кандыдат мастацтвазнаўства **Наталля Сцяжко**. — Я не пераставала здзіўляцца яе глыбокім ведам, фенаменальнай памяці. Яна памятала ўсе прозвішчы артыстаў, рэжысёраў, стваральнікаў фільмаў — на жаль, я не магу гэтым пахваліцца, а яна ўсё памятала».

Яшчэ тыдзень таму Ала Бабкова напісала артыкул пра Нобелеўскую прэмію Святланы Алексіевіч: «Нобель. У цёзкі не было сумневу».

**Інф. Марыны Коктыш; радыё «Свабода»**

## Выйшла кніга Вячаслава Насевіча «Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя»

У гэтай кнізе пад адной вокладкай сабраныя асноўныя працы вядомага беларускага навукоўца, прысвечаныя разнастайным кірункам яго навуковых зацікаўленняў: праблема ўтварэння і тэрытарыяльнага фармавання Вялікага Княства Літоўскага, гістарычная геаграфія і картаграфія, генеалогія, гістарычная дэмаграфія. У кнізе адсочваецца шлях станаўлення беларусаў ад пракаветных часоў да пачатку XX стагоддзя. Надрукаваная кніга ў Смаленску выдавецтвам «Інбелкульт».



# Скарбы нетурыстычнай Рыгі

Піша **Алег Дзярновіч**.



### Сляды пятага горада

З акна гасцявых пакояў Латвійскай акадэміі навук, дзе я не першы год спыняюся, прыязджаючы працаваць у Рыгу, адкрываецца від на адно з даўніх прадмесцяў балтыйскай сталіцы. Гэта частка Рыгі, аддзеленая ад Старога горада (Vecrīga) Цэнтральным рынкам з былымі ангарамі ад дырыжабляў часоў Першай сусветнай, не надта прыцягвае турыстаў.

Любы вандроўнік, які трапляе ў гэтае прадмесце, рэальна апынаецца ў атмасферы XIX ст. — інфраструктурна шмат у чым пабудовы, двары, завулкі засталіся такімі, якімі і былі ў эпоху бурлівага капіталістычнага развіцця Рыгі. Сучаснага чалавека ўразіць кантраст.

Бо тут, у дварах чатырохпяціпавярховых цагляных дамоў характэрнага індустрыяльнага выгляду эпохі мадэрну, могуць знаходзіцца дроўныя склады, у падвалах захоўваецца вугаль. Так, сюды была праведзена электрычнасць, а таксама вада, часам у выглядзе калонкі на вуліцы. Але ацяпленне па-ранейшаму ажыццяўляецца гэтымі дровамі ці вугалем. Вядома, некаторыя кватэры абсталяваныя сучаснымі сістэмамі забеспячэння. Але гэта магчыма толькі ў тых жытлах, гаспадары якіх здольныя інвеставаць у якасць жыцця.

Большасць кватэраў у цагляных будынках і драўляных дамках у Маскоўскім фарштаце пустуе. У Латвіі адбылася паслядоўная, а часам і жорсткая рэстытуцыя маёмасці. Усе даўнія будынкі набылі сваіх гаспадароў — нашчадкаў ранейшых. Сродкаў у новых гаспадароў няма. Маляўнічыя пустыя кварталы ствараюць экзатычны урбаністычны ландшафт: пасярод гарадской выспы XIX ст. бяжыць трамвай. Куды едуць усе гэтыя людзі, калі большасць вокнаў у дамах тут забітыя?

Каб ацаніць памеры рыжскіх прадмесцяў XIX ст. і колькасць закінутых кватэраў, варта прыгадаць, што ў 1897 г. Рыга па колькасці насельніцтва (256 тыс.) і маштабах капіталу ў Расійскай Імперыі спаборнічала за 4—5 месца — непасрэдным канкурэнтам быў Кіеў (пасля Санкт-Пецярбурга, Масквы і Адэсы). Наконадні Першай сусветнай колькасць жыхароў тут наблізілася да паўмільёна (а сёння ж у Рызе пражывае каля 700 тыс. чалавек). Рыга была гандлёвымі варотамі Расійскай Імперыі на Балтыцы. (У сталіцы імперыі ў Кранштаце знаходзілася галоўная ваеннамарская база, а гандлёвы порт быў слабы.) У Рызе ж ад 1909 г. на Руска-Балтыйскім вагонным заводзе выраблялiся самыя масавыя расійскія аўтамабілі таго часу «Руса-Балт». Там жа збіралі найвялікшыя аэрапланы «Ілья Мурамец» Ігара Сікорскага. Нямецкая, расійская, яўрэйская буржуазія Рыгі здолела зарабіць велізарныя сродкі, матэрыяльным сведчаннем чаго і па сёння з'яўляюцца кварталы шыкоўнага мадэрну.

Цяпер праз сацыяльную дэпрэсіўнасць Маскоўскі фарштат стаў прывабным месцам для крыміналу, які базуецца на наркотыках. Яшчэ гадоў дзесяць таму тубыльцы не раілі з'яўляцца там па вечарах. Пік экстрэмы сышоў, але легенды, што казычуць нервы, засталіся.

Але ёсць і іншае вымярэнне Маскоўскага фарштата. Гэты раён вылучаецца і рэлігійнымі асяродкамі. На ўскраіне прадмесця знаходзіцца каталіцкая семінарыя з касцёлам — практычна адзіная, якой было дазволена функцыянаваць у паваенным СССР. Амаль усе каталіцкія святары той эпохі прайшлі ў ёй падрыхтоўку. Была яшчэ семінарыя ў Коўне, але яна прымала навучэнцаў толькі з Літвы.

У самым жа цэнтры прадмесця месціцца яшчэ больш старажытны асяродак — стараверская Грэбеншчыкоўская абшчына. Знешне комплекс падобны на заможны купецкі дом XIX ст. Царская адміністрацыя забараняла старaверам узводзіць мальныя будынкі, якія знешне хоць нечым нагадвалі б царкву. Толькі ўзведзеная ў 1905 г., пасля рэлігійнай лібералізацыі ў Расіі, высокая званіца дазваляе здагадацца, што перад намі рэлігійны аб'ект.

### Пажар 1812 года

Чаму фарштат, уласна, Маскоўскі? Бо ад XVII ст. гэтае прадмесце вядомае як месца кампактнага рассялення расійскіх купцоў. У пачатку XIX ст. гэтае прадмесце мела пераважна драўляную забудову і было спаленае на загад расійскага ваеннага губернатара Івана Эсена, калі напалеонаўскія войскі ўвайшлі ў межы тагачаснай Ліфляндскай губерні.

23 ліпеня 1812 г., калі паступілі звесткі пра пераправу французскага корпуса вышэй па Дзвіне, Маскоўскае прадмесце запалала. Але моцны вецер перакінуў полымя і на тыя кварталы, якія не планавалася знішчаць. Суткі гарэлі ўсе прадмесці Рыгі, агонь ледзьве не перакінуўся на Стары горад.

Французы ж і не планавалі наступаць на Рыгу. Напалеон ілюзорна чакаў паслоў ад цара Аляксандра I. Але гісторыя са знішчэннем Маскоўскага фарштата можа дадаць ускосных аргументаў да даўняй дыскусіі, хто ўсё-такі падпаліў ужо Маскву ў верасні 1812 г. Як бачым, тактыка знішчэння рэсурсаў і выпаленай зямлі актыўна выкарыстоўваліся расійскай адміністрацыяй.

У Рызе ж дзясяткі тысячаў жыхароў засталіся без даху і маёмасці. Загінулі найпрыгажэйшыя раёны. Рыжане праклінaлі Эсена, які знішчыў палову горада на падставе панічных чутак.

### Кніжніца рыжскіх стараавераў

Гісторыя з пажарам 1812 г. мае для нас і яшчэ адно значэнне — пасля яго стараверы пачалі ўзводзіць мураваныя будынкі на месцы спаленых драўляных.

Стараверы з Расіі сталі пранікаць у шведскую Рыгу яшчэ ў пачатку XVIII ст, шукаючы паратунку ад дзяржаўнага тэрору. Стараверы Рыгі, як і стараверы, што з'явіліся на поўначы Вялікага Княства Літоўскага, належаць да беспапоўскага кірунку. То бок сан святароў яны прызнавалі толькі за тымі з іх, хто быў высвечаны да рэформы Нікана. З часам старыя кананічныя святары пасыходзілі з гэтага свету, і сярод стараабрадцаў гэтага радыкальнага кірунку засталіся адныя толькі міране. Таму і набажэнствы ў беспапоўцаў ажыццяўляюцца па міранскім чыне: адсутнічаюць элементы, што выконвае святар.

Тут трэба адзначыць, што на поўдні Беларусі, на Чарнігаўшчыне і Севершчыне пасяляліся стараабрадцы іншага кірунку — «папоўцы», якія стварылі сваю іерархію і, апроч іншага, прызнавалі святарскі сан перабежчыкаў з новаабраднай царквы.

У наш час большая частка беспапоўцаў аб'ядналая ў Дрэўлеправаслаўную Паморскую царкву, а Рыжская абшчына застаецца найбуйнейшай у гэтай царкве. Ад 1833 г. яна мае назву Грэбеншчыкоўскай у гонар свайго мецэната купца Аляксея Грэбеншчыкова. Дзякуючы традыцыяналізму, замкнёнаму ладу жыцця і працягламу знаходжанню ў Рызе, Грэбеншчыкоўская абшчына валодае абсалютна нечаканымі для нас рарытэтамі.

Мае знаёмыя рыжскія калегі, філолагі Латвійскага ўніверсітэта, прапанавалі наведаць кніжніцу (кніжныя зборы) абшчыны. Але найперш трэба было атрымаць дазвол. Звязаліся са старшынёй абшчыны. Той сказаў, што звернецца да рады старшыняў, а пра вынік нам паведамяць. Сапраўды, праз два дні патэлефанавалі і сказалі, што старшыні пагадзіліся дапусціць у кніжніцу беларускага даследчыка. Праўда, у іншы дзень, чым меркавалася раней, але дазвол гэтай закрытай супольнасці быў атрыманы. Прызнацца, я не зусім уяўляў, што магу пабачыць пад скляпеннямі вялізнага муравана-га будынка нязвыклай архітэктуры ў легендарным прадмесці Рыгі.

Пасля вітанняў і ўважлівага выслухвання кароткай творчай біяграфіі вас праводзяць у адносна невялікі пакой, на вокнах якога краты, а ўздоўж сцен — старыя шафы са шклянымі дзверкамі. На вашу просьбу, але не ахвотна, з найбліжэйшай шафы дастануць адну з тоўстых кніжак.

У гэтым сціплым пакоі вы можаце знайсці выданні Астрожскай друкарні, заснаванай маскоўскім выгнаннікам Іванам Фёдаравым паводле ініцыятывы і на грошы князя Канстанціна Астрожскага. Друкарня пачала дзейнічаць у Астрагу на Валыні ў 1577—1579 гг., а ў 1581 г. з'явілася такое адметнае выданне, як Астрожская Біблія — першае завершанае выданне Бібліі на царкоўнаславянскай мове. У ажыццяўленні гэтага грандыёзнага культурнага і рэлігійнага праекта Іван Фёдараў карыстаўся таксама перакладамі Францыска Скарыны. Пасля канфлікту з князем Астрожскім Фёдараў выехаў у Львоў, але закладзеная ім друкарня працягнула дзейнасць. Ужо ў 1590-я гады для выданняў Астрожскай друкарні быў выкарыстаны шрыфт, створаны ў Вільні былым паплечнікам Фёдарава на Маскве Пятром Мсціслаўцам.

Беларускі след мы можам знайсці і ў іншым унікаце з кніжніцы Рыжскай абшчыны. Тут захоўваецца першая датаваная друкаваная расійская кніга — «Апостал» 1564 г. Гэтае службовае для набажэнстваў у цэрквах выданне ажыццявілі ўсё тыя ж Фёдараў і Мсціславец. Пасля, ва ўмовах ціску кансерватыўных маскоўскіх колаў, друкары пакінулі Маскву і скіраваліся ў ВКЛ. У Паслясловi да львоўскага «Апостала» 1574 г. Фёдараў з падзякай прыгадваў караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, які ласкава даў яму магчымасці ўладкавацца ў новай Айчыне.

На сёння вядома каля 65 захаваных асобнікаў «Апостала» маскоўскага друку 1564 г., але адзін неапісаны асобнік захоўваецца таксама ў Рыжскай стараверскай абшчыне. Як і выдавец гэтай кнігі, стараверы мусілі былі шукаць паратунку ад ціску расійскай дзяржавы ў суседніх краінах.

Мне ўдалося прабыць у кніжніцы каля гадзіны. Увесь гэты час мне амаль не давялося дакрануцца да кніг — іх трымаў у руках захавальнік кніжніцы. Не дазволілі і фатаграфаваць. Стараверы засталіся вернымі сваёй традыцыі самаізаляцыі і вытрымлівання дыстанцыі, наколькі гэта магчыма ў сучасным свеце.

Сённяшнія скарбы рыжскіх старавераў — толькі часта некалі яшчэ большай калекцыі. У 1958 г. даследчыкі з «Пушкінскага Дома» тагачаснага Ленінграда апісалі 150 рукапісных і 300 старадрукаваных кніг Грэбеншчыкоўскай абшчыны. Найбольш каштоўныя рукапісы, пачынаючы ад XV ст., былі перададзены ў Бібліятэку АН СССР у Ленінградзе.

Але найкаштоўнейшыя старадрукі засталіся ў кніжніцы пасярод Маскоўскага фарштата. Энтузіясты рыхтавалі праект пры еўрапейскай падтрымцы, каб навукова апісаць усе гэтыя кнігі і стварыць адпаведны тэмпературна-вільготнасны рэжым захоўвання кніжных скарбаў.

Абшчына не падтрымала ідэю, бо ў адваротным выпадку прыйшлося б дапусціць да сваіх збораў староннiх людзей.

### Мова Маскоўскага фарштата

Усё ж рыжскія стараверы ў нейкай меры захоўваюць імкненне папулярызаваць сваю спадчыну. Адным са сведчанняў гэтага стала перавыданне працы філолага XIX ст. Івана Жалтова «Руская гаворка Рыгі». Рыжскі выкладчык расійскай славеснасці Жалтоў паставіў сабе за мэту паказаць публіцы, якая чытае, што ў Рызе функцыянуюць не толькі нямецкая і латышская мова, але актыўна ўжываецца і расійская. Да таго ж гэта мова не толькі прысланага імперскага чынавенства, але яна мае і мясцовыя глыбокія традыцыі.

Іван Жалтоў хацеў паказаць вось гэтую народную моўную стыхію і вельмі дакладна фіксаваў лексіку славянамоўнага насельніцтва Рыгі. Месцам кампактнага рассялення гэтага жыхарства якраз і быў Маскоўскі фарштат.

Сярод словаў, так уважліва занатаваных расійскім філолагам у 1874 г., сустракаюцца нам цалкам знаёмыя: «батька», «бахвал» («хвастун»), «вага, важніца», «вагарь» (весовщик при городских весах»), «воспа», «пруссак» («род маленьких тараканов желтого цвета», занесенных, по преданию, из Пруссии), «так само», «цырульник»...

Іван Жалтоў прывёў і спіс фанетычных асаблівасцяў гаворкі Маскоўскага фарштату. Не выклікае сумневу, што рыжскі філолаг апісваў менавіта беларускія моўныя рысы. Беларускія гаворкі выразна прысутнічалі сярод славянамоўнага насельніцтва тагачаснай Рыгі.

Жалтоў тлумачыў, што «мясцовае рускае насельніцтва Рыгі» склалася з двух элементаў, а менавіта з выхадцаў з вялікарасійскіх губерняў, а таксама з перасяленцаў з суседніх з Прыбалтыйскім краем губерняў — Віцебскай, Ковенскай і Віленскай. Праўда, апошніх Жалтоў таксама лічыць паводле паходжання велікаросамі-стараабрадцамі, але збеларушчанымі праз доўгае пражыванне сярод тубыльцаў Паўночна-Заходняга края.

Адпаведна паходжанню рускае насельніцтва ў Рызе, як піша Жалтоў, падзяляецца на «расейскае» і «польскае» (з былой Рэчы Паспалітай). Жалтоў так і піша гэтае ўжыванне паміж рыжанамі слова — «росское». Я доўгі час лічыў гэты выраз проста вульгарызмам. Аказваецца, народная форма бытавання гэтага слова была досыць пашыранай.

Гісторыя з мовай Маскоўскага фарштата можа быць для нас павучальнай. Мы не да канца ўяўляем арэалы бытавання беларускай культуры. Арэалы яе пашырэння могуць быць самыя нечаканыя, і нам не трэба забывацца на гэтыя скарбы. Тады мы ўспрымем і культурную ідэнтычнасць, і культурную разнастайнасць як жывыя, ліючыя формы.

# Як дзяўчына з БРСМ расказвала мне пра пузатага Буду

Віктар Шукеловіч.
Апавяданне.

У нашым мястэчку ёсць такія людзі, з якімі, я не ведаю, ці выпадае вітацца. Усе яны жывуць на другім канцы селішча, кароў ганяюць на іншы выган, у ягады ходзяць у чужы лес. З імі мне ніколі не даводзілася гаварыць, на нашай вуліцы я іх ніколі не бачыў, бо чаго ім хадзіць па нашых задворках, калі яны свае маюць. Мы не прадстаўленыя. Але кожнага з іх я ведаю ў твар, бо недзе ў краме ці на аўтобусным прыпынку спатыкаліся.

Да такіх людзей належала Анька. Я мала што пра яе ведаў, толькі, бадай, тое, што чуў ад іншых краем вуха. Дзіцём я бачыў яе цыбатую постаць у школе на калідоры, але яна была старэйшая за мяне на некалькі гадоў і ніколі б першай не загаварыла з «малышнёй». Я чуў, што іншыя старшакласнікі прыдумалі Аньцы мянушку — Скараспелка. Але што гэна дакладна значыла, я зусім не ведаў. Думаў, можа, гэта ад таго, што ў яе нос бульбачкай, бо ёсць жа картопляскараспелка.

Анька вучылася не надта добра, але яе заўсёды бралі на розныя школьныя канцэрты чытаць вершы. Яна дэкламавала, як у тэатры: то ўздымаючы бровы, то падносячы рукі, то прыціскаючы іх да грудзей, то паніжаючы голас, то запавольваючы словы. Усе аж млелі на канцэртах ад ейных выступаў.

Аньку гадавала адна маці. Бацька памёр пад плотам. Матка выйшла раз вечарам на падворак, пабачыла, што муж ляжыць снапом, але падумала, што той напіўся пасля працы. Дахаты яго не пацягнула, прынесла посцілку нейкую з узорамі, прыкрыла мужыка на ноч ды ўсё. Нараніцу ўстала карову даіць, а мужык ужо акалеўшы ляжыць пад тымі ўзорамі, а па твары мурашкі поўзаюць.

Без бацькі Анька надта распусцілася: зусім закінула вучобу, у школу прыходзіла з памаляванымі пазногцямі і ў надта кароткіх спаднічках, за што яе не раз настаўнікі чысцілі на школьных лінейках. Анька любіла шпацыраваць па цэнтральнай вуліцы. Бывае, распусціць косы, вусны начырвоніць, убярэцца ў міні і выхоўжвае па ходніку ўзад-уперад, як мадэлька на подыуме. А машыны едуць, сігналяць ёй, хлопцы ды мужыкі рукамі махаюць, а яна цешыцца, уся аж свеціцца.



**Віктар Шукеловіч**

пісьменнік. Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Анька гаварыла амаль заўсёды па-расейску. Гэта было дзіўна. У школе былі дзеці з настаўніцкіх сем'яў, з начальніцкіх, але нават яны шпарылі, як дома гавораць— «па-простаму». Анька з сям'і патомных калгаснікаў размаўляла гэтак, нібы нарадзілася ў Санкт-Пецярбургу, а яе толькі воляй злога лёсу занесла ў наш глухі куток. Можа, гэта ў ейнай галаве нешта пераставілася, бо яе на канцэрты ў раён бралі? Па-расейску Анька і з маці гаварыла, і з каровай ды коткай. Бывала, ідзеш каля Аньчынай хаты, а адтуль крыкі: «Чаго ты поўзаеш вечарамі?! Дзе ты бадзяешся?! Як прынясеш мне што ў падоле, то разам з ім у студню з камянём на шыі скачы!.. Людзі смяюцца...» Пазней было чуваць крыху няроўны голас дзяўчыны-падлетка: «Пускай говорят, что хотят».

Неяк ідучы з вялікім ранцам пасля ўрокаў праз школьны стадыён, я пабачыў, што Анька стаяла сярод чародкі хлопцаў-падшыванцаў: і крыху большых, і нават меншых за мяне. Раптам адзін з найхудзейшых хлапчукоў падляцеў да дзяўчыны ды піхнуў яе рукамі ў грудзі. Анька пахіснулася, але ўстаяла, выпрасталася. «Рыская карёва буракі паела...» — крычаў нехта ў яе бок. «Ехала на рёвары, панчёху парвала...» — бязлітасна дражніліся з дзяўчыны хлопцы. Тая ж раз'юшана круціла хвігі ў бок шпінгалетаў. «Пастаў дрябіну, выцягні рюку...»— не сціхалі мальцы, круцячыся каля Анькі. Дзяўчына пачала іх мацюкаць ды кідаць падабранымі з зямлі камянямі ў бок хлопцаў. У яе паляцелі таксама нейкія трэскі, жмені пяску з травой. Нехта падляцеў ззаду ды даў ёй выспятка. Рэшта галасна зарагатала. На мяне таксама найшоў нейкі шал, мае дзіцячыя кулакі пацяжэлі, нібы наліліся, ногі сталі пругкімі. Я памчаўся ў бок дзіцячай баталіі, каб пляваца ды кідаца зямлёю ў Аньку. Я быў, пэўна, як шакал, які пачуў кроў, пах загнанага звера, ды падбрэхваў зграі больш моцных і зацятых звяроў. Лёс выратаваў Аньку ад дачэпак мальцаў і маёй лютасці— з-пад зямлі з'явіўся настаўнік фізкультуры, махаючы кулакамі ў розныя бакі. Стадыён апусцеў, Анька ж уцякала стрымгалоў дахаты, у свой малы Санкт-Пецярбург.

***

Закончыўшы школу, Анька неяк з горам напалам паступіла ў педагагічны каледж, пасля якога вярнулася ў наш раён працаваць некім у БРСМе. Казалі, што мужыкі ці не з усяго горада яе цягалі. Яна, відаць, усё шукала кахання ды чуласці, але ніяк не знаходзіла. Па-ранейшаму яна любіла кароткія спаднічкі, хадзіла на высокіх абцасах, яскрава малявала вусны ды падводзіла вочы. Асноўнае ейнае заданне, як казалі, было ездзіць па школах ды абяцаць тым, хто запішацца ў БРСМ, зніжкі на вясковых дыскатэках.

Неяк аднаго разу я спаткаў яе каля нашай школы. Яна ішла мне насустрач, а я чарговы раз перажываў пакуты ваганняў, зноў не ведаючы, ці трэба мне з ёй вітацца. Дзяўчына не глядзела на мяне, скіраваўшы нафарбаваныя вочы некуды ў дол. Зачапіўшыся зрокам за камяні каля сцежкі, яна інтуітыўна ўся сцялася, нейкая нібы хваля прайшла па ейным целе. Згадала старое ці нешта адчула?

«Добры дзень», — па-беларуску першай азвалася да мяне Анька з нейкай надзеяй у вачах. Я ж засароме́ўся, уцягнуў шыю ў плечы і павярнуўся бокам, прабубнеўшы пад носам «Дабрыдзень».

— Скажыце, а вы ў апазіцыі?— з цікаўнасцю запыталася дзяўчына.

— У чым?— мне неяк зрабілася прыкра.

— Ну, у апазіцыі, вы ж гэтак па-беларуску гаворыце,— патлумачыла мая суразмоўніца.

— Не-а, я ў сваіх марах,— стараўся я аджартавацца, каб не пакрыўдзіць Аньку. Жарт, на маю думку, не ўдаўся — дзяўчына нават не ўсміхнулася.

— Вы мне Андруся нагадваеце,— сказала яна неяк вельмі сур'ёзна.

— Я вельмі рады, але...

— Паслухайце, пачакайце. Вось вы, пэўна, думаеце: чаму я папростаму цяпер гавару?

Я толькі гмыкнуў ды пацісну́ў плячыма. Анька ж паставіла на траву сваю дамскую торбачку ды загаварыла надта хутка, нібы баючыся, што я ўцяку, а яна не паспее мне ўсяго распавесці:

— Я яго надта моцна кахала — Андруся. Утрэскалася, як дзяўчынка, без памяці. Андрусь быў з Мінска. Тата — інжынер, мама — настаўніца. Ён закончыў гістарычны факультэт і прыехаў тут у адну школу недалёка. А я тады замяняла піянерважатую... ой, педагога-арганізатара... Ён адразу мне спадабаўся: такі начытаны, разумны, упэўнены ў сабе... Не раўня нашым хлопцам-афэлкам, што адно мацюкацца ды самагонку жлукціць добра ўмеюць. Ад яго заўсёды добра пахла, ён быў галантны, ну, як вам сказаць, у нашай вёсцы такіх людзей няма.— Анька павярнула шыю ў бок калгаснага мехдвара.— Яго пасялілі ў інтэрнаце пры школе. Неяк у настаўніцкай ён мяне абсёк, калі я яго «Андрэй» назвала. «Я — Андрусь»,— з напорам папраўіў ён мяне. Ён сказаў гэта чароўна: уладна і адначасова з просьбай. Мне падабалася, што ў ім была такая мужчынская сіла, але і нейкая дзіцячая наіўнасць, даверлівасць. Ведаеце, у яго былі яшчэ такія шкарпэткі паласатыя — у зэбрыя і сінія паскі. Калі я на іх глядзела, мне смяяцца хацелася — гэткім пацешным мне гэта падавалася. Я пачала па вечарах да яго захаджваць у інтэрнат то з торцікам, то з пірагом, бывала, што і клёцак ці катлетаў нараблю і прынясу. Спачатку ён быў да мяне абыякавы, ляніва адрываўся ад кнігі, калі я прыходзіла. Але з часам я заўважыла агеньчык у ягоных вачах, як ён мяне бачыў. Я ж цешылася і лятала як пушыначка. А ў жываце круціліся матылі. У мяне так ні з кім не было...

Дзеля яго я пачала размаўляць па-беларуску, не адразу, праўда, але паступова, бо трэба было прывыкнуць. Ён усё хваліў мяне, што ў мяне такое «ч», якога ў яго ніколі не будзе. Тлумачыў мне, што нашая «простая» мова — гэта мова шляхты ВКЛ, арыстакраты на ёй гаварылі. Я магла яго слухаць гадзінамі, нібы зачараваная. Ён мне падсунуў нейкія кнігі. Я чытала толькі дзеля яго. Ды што там казаць, я жыла і дыхала тады дзеля яго.

Ведаеце, у мяне два словы з'явіліся любімыя: «рахманы» і «руплівы»... Гэта ж проста містыка нейкая. Гэта ж да санскрыту падобна, вы ведалі? Да адной з самых старых моваў... Гэта ж Буда гаварыў на ёй, святую кнігу «Веды» чытаў, ці чулі вы пра гэта? А ён такі ж прынц быў багаты, але такі добры, што ад усяго адрокся... Вы будзеце смяяцца, але, гэтак начытаўшыся, я ішла была праз вёску, а пры плоце на каменьчыку залатога Буду пабачыла— сядзіць, аж зіхаціць. Такі чыста Буда з вялікім жыватом, ногі заклаўшы адна на адну. Я падумала, што здурэла ўжо ад кніг, ажно прыглядзелася, а гэта на тоўсты брыгадзір Стасюк ад гарачыні распрануўся і незагарэлым пузам свеціць — вось такое золата было... Адвярнулася, а побач Крышна з сіняй скурай танцуе... Але зусім не Крышна гэна быў, а трактарыст Юзюк, што ад гарэлкі ссінеў, напіўшыся, скакаў сабе. Такія прыгоды былі, і далёка ездзіць не трэба...

Усё змянілася, калі дырэктар школы запрасіў нас на шашлыкі. Школа атрымала нейкую ўзнагароду, і дырэктар арганізаваў застолле на прыродзе. Я была шчаслівая, як бываюць толькі закаханыя жанчыны. Я сачыла за кожным рухам, жэстам Андруся. Дырэктар пытаўся, чаму я прыцхла, а мне было ўсё роўна, абы далі наглядзецца на Андруся. Мне нават тады маміна прыгаворка згадалася: «Хоць пад лаўкаю пасяджу, але на харошага пагляджу». Шашлык быў надта смачны, мяса стала далікатнае і сакавітае, цэлую ноч праляжаўшы ў духмяным марынадзе. Мужчыны пілі гарэлку, а жанчыны — белае віно. Андрусь піў чарка за чаркай, смачна закусваючы добрым мясам. Іншыя настаўніцы жартавалі з ім, а ён ім белазуба ўсміхаўся. Я ж хацела, каб ён глядзеў толькі на мяне. Я неяк адвярнулася ад яго, а калі зноў глянула, дык мне аж вочы перавярнула: ён гэтак сквапна кусаў кавалкі мяса з шампура, што стала гідка. Ён расчырванеўся ад гарэлкі, вочы перакасіліся. Ён кусаў мяса жорстка, нібы галодны звяруга, што аж клацалі зубы, тлушч сцякаў па вуснах, на пальцы, капаў на яго вычашчаныя чаравікі. Ён не еў, ён жэр, а каля ягонага рота, дзе, як у бездані, зніклі кавалкі мяса, кружылі мухі. Як я некалі магла цалаваць гэтыя вусны, на якіх цяпер блішчаў тлушч. Я адвярнулася, каб гэтага не бачыць. Дахаты мы вярталіся пасобку. Назаўтра я яго спаткала, але гэта быў не мой Андрусь, гэта быў нехта іншы: нейкі чужынец, што драпежна ўсміхаўся вострымі зубамі, на якіх, як мне падалося, яшчэ былі рэшткі ўчорашняга мяса. Я збрыдла Андруся, мне не хацелася нават з ім гаварыць.

Ведаеце, я была з такой беднай сям'і... Я насамрэч недаядала ў дзяцінстве. Ніколі так не было, каб я наелася і мне больш нічога больш не хацелася. Заўсёды хацелася больш. Яшчэ горш было, калі вучылася ў каледжы... Грошай мама не давала мне ні капейкі, часам бульбы якой ці сала падкіне, а мне ж хацелася ўбірацца, красавацца. А не было з чаго. У вёсцы я ведаю таксама шмат бедных людзей, але я ніколі не бачыла, каб нехта так ненасытна еў, як Андрусь. Ведаеце, я пагарджаю беднымі людзьмі... А ён еў як нейкі найгоршы бядак, як бомж, які не бачыў ежы некалькі дзён. О не, з такім чалавекам я б не змагла жыць.

Я стаяў у разгубленым маўчанні. А што было гаварыць?

Анька сама перарвала цішыню, якая ўзнікла на момант.

— Але цяпер я ведаю, чаму для мяне важны Буда... Гэта мусіла так стацца,— па шчацэ дзяўчыны цякла чорная ад пацеклай тушы сляза.

*Жупраны*




**Злучэнне планет над Нёманам. Вось такую карціну можна назіраць зараз на небе кожную раніцу. Задоўга да з'яўлення Сонца на ўсходзе можна ўбачыць у адным месцы адразу тры планеты Сонечнай сістэмы. Самая яркая зорка, якая ажно здзіўляе сваім бляскам, — гэта Венера, другая яркая зорка — Юпітэр. А маленькая зорачка побач з Юпітэрам — гэта Марс.**



**Барысаўскі БАТЭ дзясяты раз запар і дванаццаты раз у гісторыі стаў чэмпіёнам Беларусі па футболе. У вырашальнай гульні БАТЭ перамог у гасцях «Віцебск» — 2:0. На фота: адзін з нямногіх карэнных барысаўцаў у складзе БАТЭ Ігар Стасевіч з чэмпіёнскім кубкам.**




**Беларуска Тася Нікіценка, студэнтка маскоўскага Інстытута журналістыкі, на працягу гадзіны пікетавала пасольства Беларусі ў Маскве з плакатам «Хлеба, солі, зямлі, волі». Расійскія паліцыянт сфатаграфаваў плакат і пашпарт дзяўчыны. У астатнім пікет прайшоў без інцыдэнтаў.**



**Лукашэнка з'явіўся ў календарах «рускага свету». Асноўная тэма працаў расейскага мастака Андрэя Будаева — усхваленне расейскай улады і высмейванне заходніх лідараў. Але часам на ягоных календарах можна пабачыць і кіраўніка Беларусі.**




**У Каліфорніі прайшоў 42-ы чэмпіянат па ўзважванні гарбузоў. Пераможцам стаў фермер, які выгадаваў гарбуз вагой 893 кг. І гэта не мяжа: сусветны рэкорд быў усталяваны ў 2014 годзе, і тады гарбуз важыў 1053,6 кілаграма.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Хто сапсаваў паветра ў Мінску?

— Гэта чэрці катлы праграваюць.

* * *

Хітрая бабуля да Новага года навязала ўнуку швэдар, шкарпэткі, свой пункт гледжання і сістэму маральных каштоўнасцяў.

* * *

«Выратаванне радавога Раяна» — 70 мільёнаў даляраў.

«Інтэрстэлар» — 165 мільёнаў даляраў.

«Марсіянін» — 108 мільёнаў даляраў.

Разам на выратаванне акцёра Мэта Дэймана выдаткавана 343 мільёны!

* * *

Хачу мець такое самае пачуццё іроніі, як ў вытворцы сухарыкаў са смакам чырвонай ікры.

* * *

Часам узнікае дзіўнае адчуванне, быццам я ў краіне, дзе ўлада нас не любіць і крыўдзіць. Але варта ўключыць тэлевізар, як насланнё праходзіць.

* * *

– Вашае прозвішча?

– Ослік.

– Хм, не пашанцавала вам з прозвішчам ... а ініцыялы?

– І. А.

* * *

Калі кідаць букет нявесты, зроблены з кактусаў, то будзе больш зразумела, хто сапраўды адчайна хоча замуж.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мазырскі павет.** 65-летняга дзеда, памешчыка Кнобельсдорфа, прысудзілі гэтага лета ў катаргу за забіццё лісіцы ў старой праваслаўнай капліччы пад лесам. Цяпер сяляне трох вёсак, суседніх з дваром Кнобельсдорфа, большай часцю праваслаўныя, падалі на царскае імя прашэнне аб памілаванні засуджанага, каторы заўсёды памагаў сялянам і рабіў ім розныя палягчэнні.

**«НН». №43. 1915.**

**Першы ўдар.** Зачыстка на Гарадзеншчыне перад выбарамі пачалася. Арыштаваны ваўкавыскі прадпрымальнік-афганец Мікалай Аўтуховіч. Уражвае хуткасць, з якой найбуйнейшы бізнэсовец раёна аказаўся за кратамі. У адзін дзень была заведзена крымінальная справа, Аўтуховіч быў прызнаны падазраваным, потым абвінавачаным і ўзяты пад варту. Такі спех можа сведчыць, што яго справа выходзіць за мяжу канфлікту прадпрымальніка і кантрольных органаў.

**«НН». №39. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 20.10.2015.
Замова №3944.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15039